Адна зямля
Астравец
Мядзел
Смаргонь
Вілейка
Ашмяны
Маладзечна
Валожын
Мінск

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

24 лістапада 2017 года №47 (1178)

## У Маладзечне не будуць спынящца віленскія цягнікі

старонка 2


Фота Наталлі ТУР.



## Падлетка, які знік 16 лістапада знайшлі загінулым

старонка 4

## Калі дзіця пасляховае, беларуская мова не перашкодзіць у вучобе: як выхоўваюць дашкольнікаў у беларускамоўнай групе ў Смаргоні

старонка 5



## Чысць – спартыўная сталіца Маладзечаншчыны

старонка 22

## Знялі "Майсея Колю" – фільм пра Мікалая Кісялёва

старонка 18

НАВІНЫ

## У Смаргоні з'явіўся святлафор, які размаўляе з пешаходамі

СМАРГОНЬ

На пешаходным пераходзе каля першай школы ў Смаргоні паставілі святлафор, які папярэджвае пешаходаў словамі: "Увага! Паглядзіце направа, паглядзіце налева!"

Як распавялі ў ДАІ Смаргоні, гэта ўнікальная сістэма дарожнага апавяшчэння, якой пакуль няма ні ў воднай краіне. Цяпер каля першай школы ўстанавілі пілотны варыянт сістэмы ў якасці эксперымента.

Па словах супрацоўнікаў ДАІ, і кіроўцы, і пешаходы становяцца больш уважлівымі на дарозе ад такога папярэджання. Распрацаваў сістэму смаргонскі прадпрымальнік.

## У Маладзечне прышчапляюць супраць грыпу

МАЛАДЗЕЧНА

У Цэнтры гігіены і эпідэміялогіі Маладзечна распавялі, што на сённяшні дзень прышчапілі 28% насельніцтва.

На думку спецыялістаў, гэтага недастаткова, каб не дапусціць магчымую эпідэмію. Але час для прышчэпкі яшчэ ёсць. Вакцынацыю будуць праводзіць да 1 снежня.

Прышчэпкі робяць у медыцынскіх установах, а таксама спецыялісты выязджаюць на дом і прадпрыемствы.

Павелічэнне колькасці вострых рэспіраторных захворванняў прагназуюць на канец студзеня – пачатак лютага.

Аксана ЯРАШОНАК.

## У лясгасе абмеркавалі тэхніку і абсталяванне

АСТРАВЕЦ

17 лістапада на базе астравецкага лясгаса разгледзелі пытанні ўдасканалення, эксплуатацыі, рамонту замежнай і беларускай дрэваапрацоўчай тэхнікі.

У рамках мерапрыемства зладзілі таксама прэзентацыю тэхнікі айчынных і замежных вытворцаў, пазнаёмілі ўдзельнікаў з рамонтнай базай лясгаса.

## Віляйчане паўдзельнічалі ў семінары па пытаннях ЖКГ

ВІЛЕЙКА

Прадстаўнікі Вілейскага райвыканкама і аб'яднання "ЗОВіК" удзельнічалі ў рэспубліканскім семінары па пытаннях ЖКГ.

Семінар праводзілі ў рамках праекта "Патрэба ў эфектыўным кіраванні ЖКГ" пры падтрымцы арганізацыі "Экапартнёрства".

Абмяркоўвалі пытанне, як фарміраваць станоўчы імідж прадпрыемстваў ЖКГ, як узаемадзейнічаць з насельніцтвам.

Віляйчане распавялі аб працы суполкі "Укантакце", куды віляйчане звяртаюцца з пытаннямі і праблемамі.

## Журналісты з'ехаліся ў "Зубраня"

МЯДЗЕЛ

У "Зубраняці" правялі дзень друкаваных СМІ. Для ўдзелу сюды прыехалі журналісты дзіцячых і юнацкіх выданняў. Зладзілі выставу газет і часопісаў, якія выдаюць школьныя прэс-цэнтры. Былі таксама сустрэчы і майстар-класы для юных журналістаў.

Правялі конкурс часопісаў, выдадзеных юнымі карэспандэнтамі. Лепшай журы прызнала рэдакцыю часопіса "Пірс".

## Валожынец знайшоў старажытную манету

ВАЛОЖЫН

Краязнаўца з Івянца **Валеры Мазура**, працуючы ў Стаўбцоўскім раёне, знайшоў манету, якой амаль 2000 год. Яе адлівалі ў Рымскай імперыі.

Археолагі лічаць, што рымляне маглі прыплыць на сучасную тэрыторыю Беларусі па Нёману, каб набыць за такія манеты прадукты і самаробныя рэчы ў мясцовых жыхароў.

## Рэсурсны цэнтр ашмянскай гімназіі прэзентавалі на міжнародным узроўні

АШМЯНЫ

9-10 лістапада ў межах Міжнароднай практычнай канферэнцыі "Асоба. Адукацыя. Грамадства" правялі фестываль рэсурсных цэнтраў па выхаваўчай рабоце.

Рэсурсны цэнтр ашмянскай гімназіі па здаровым ладзе жыцця прадставіў досвед працы на выставе метадычных матэрыялаў. Кіраўнік цэнтра настаўніца **Ірына Міхайлоўская** атрымала сертыфікат удзельніка.

Аддзел інфармацыі.

ТЭМА НУМАРА



У Маладзечне ў віленскія цягнікі садзіцца памежная служба. Пасля адмены прыпынку памежнікам давядзецца ехаць у Гудагай або Мінск. Фота Наталлі ТУР.

# У Маладзечне не будуць спыняцца віленскія цягнікі

## І маладзечанцы гэтым незадаволеныя

МАЛАДЗЕЧНА

**Ад 10 снежня ўступае ў сілу новы расклад руху цягнікоў. У сувязі з завяршэннем сёлета электрыфікацыі на ўчастку Маладзечна - Науёі - Вільня (Новая Вілейка), стала магчымым пусціць паміж Мінскам і Вільняй электрацягнік.**

Аднак стала вядома, што па новым графіку ў цягнікоў №805 (першага ранішняга) і №807 (апошняга вячэрняга), якія курсіруюць па маршруце Мінск – Вільня, адменена стаянка на станцыі Маладзечна. Тое самае тычыцца цягнікоў, якія ходзяць па гэтым маршруце ў зваротным кірунку: №804 (першы ранішні) і №806 (апошні вячэрні).

Неабыякавыя маладзечанцы **Уладзімір Палуха**, **Яўген Громаў** і **Сяргей Гайдараў** звярнуліся ў "Рэгіянальную газету", каб задаць цалкам слушнае пытанне: у сувязі з чым у вышэйназваных цягнікоў адмянілі стаянку ў Маладзечне?

Па выхадных днях па маршруце Мінск – Вільня/ Вільня – Мінск курсіруюць дадатковыя цягнікі, у якіх ёсць стаянка ў Маладзечне. А вось у працоўныя дні будзе значна горш. Па будніх толькі адзін цягнік будзе спыняцца ў Маладзечне. Гэта цягнік №803 з часам адпраўлення ў 11:31. Назад у Мінск спыняцца ў Маладзечне будзе толькі цягнік №808 з часам адпраўлення з Вільні ў 15:05 (прыбыццё ў Маладзечна ў 18:08).

### Дзве тыповыя сітуацыі, якія паказваюць, наколькі нязручнай будзе адмена цягнікоў

Хлопцы прапануюць разабраць дзве тыповыя сітуацыі, з якімі сутыкнуцца маладзечанцы і жыхары раёна, якім зручна дабірацца да Вільні з Маладзечна.

Калі нехта едзе ў Вільню на адзін працоўны дзень, каб паспець вярнуцца дадому, то мог ехаць 805-м ці 803-м цягнікам, а вярнуцца назад 806-м. Гэта найбольш аптымальны па часе варыянт. Пасля змены раскладу, для іх застаецца толькі 803-і, а назад можна вярнуцца толькі 30-м хуткім Калінінград – Масква, які прыбывае ў Маладзечна ў 23:20. А гэта ўжо позна (не ўсе гарадскія аўтобусы ходзяць у гэты час).

Другая сітуацыя для тых пасажыраў, якія прыехалі ў Маладзечна ў госці і ўвечары хочуць вярнуцца дадому ў Вільню. Цяпер яны з'язджаюць 807-м. Асабліва ў пятніцу шмат людзей. Па новым графіку ў іх такой магчымасці ўжо не будзе. Толькі адзін цягнік – №29 / 30 Масква – Калінінград курсіруе штодня, але з вельмі нязручным для жыхароў Маладзечна графікам (адпраўленне з Маладзечна на Вільню ў 4:10). Астатнія цягнікі курсіруюць не кожны дзень.

Сяргей, Яўген і Уладзімір просяць звярнуцца да кіраўніцтва Беларускай чыгункі з просьбай вярнуць прыпынак у Маладзечне для цягнікоў №804 / 805 і №806 / 807.

– Мы ж не проста патрабуем вярнуць усё як было, – кажа Сяргей, – мы ж можам абгрунтаваць сваю пазіцыю. Зразумела, не трэба, каб гэтыя цягнікі спыняліся на кожным паўстанку. Але ж Маладзечна – гэта не толькі буйны горад на шляху з Мінска ў Вільню, але яшчэ і буйны вузел цэлых чатырох кірункаў. Жыхарам навакольных гарадоў, асабліва лідскага і полацкага кірункаў, прасцей і хутчэй даехаць да Маладзечна, каб там перасесці на цягнік у Вільню. Якія варыянты потым будуць у іх? Не думаю, што прыпынак у Маладзечне, які павялічыць час у шляху максімум на пяць хвілін, моцна сапсуе карціну.

### Ці магчымыя іншыя варыянты?

Маладзечна геаграфічна знаходзіцца недалёка ад Вільні, ехаць усяго паўтары гадзіны, не лічачы часу, патрэбнага для праходжання пагранічнага кантролю. Многія з маладзечанцаў маюць сваякоў у Літве, хтосьці ездзіць на вучобу, нехта па іншых справах.

Ёсць аўтобусы і маршрутныя таксі?

Ёсць усяго адзін аўтобус, які курсіруе ў Вільню праз Маладзечна. Гэта аўтобус Барысаў – Вільня з максімальнай колькасцю даступных для продажу білетаў не больш за два. Гэта можна паглядзець на сайце ticketbus.by. Акрамя таго, зваротны білет з Вільні ў Маладзечне ўвогуле не прадаецца. Ёсць аўтобусы, якія праходзяць праз іншыя навакольныя гарады, але ўсе яны транзітныя. Гэта значыць, што спланаваць паездку і набыць білет загадзя вельмі праблематычна. Аўтобусаў з Вільні ў Маладзечна няма ўвогуле.

Значыць, аўтобусны транспарт адпадае. Можа, ёсць прыватныя маршрутныя таксі. Але як міжнародны транспарт яны ўвогуле не падыходзяць. Цесна, буйны багаж не паставіш. Ды і праходжанне памежнага кантролю можа заняць шмат часу, бо "маршрутка" – гэта ўжо не рэйсавы аўтобус.

Вось і атрымоўваецца, што хоць Маладзечна ў параўнанні з Мінскам не такі і вялікі горад, але на кожны цягнік да Вільні тут садзіцца стабільна чалавек дваццаць.

**У прэс-службе Беларускай чыгункі пракаментавалі, што Маладзечна без прыпынку не застанецца. Ці вернуць прыпынкі гэтым цягнікам, ці будуць шукаць іншую альтэрнатыву, будзе вядома пазней.**



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99

# Рассрочка на смартфоны и аксессуары в МТС до 24 месяцев

СООО «Мобильные ТелеСистемы» УНП 800013732

**МТС предложил абонентам рекордную рассрочку на смартфоны. С 1 ноября купить флагманские модели гаджетов или доступные «бестселлеры» в салонах мобильного оператора можно не только по выгодной цене, но и в рассрочку до 24 месяцев без первого платежа.**




Покупая гаджет вместе с аксессуарами, например, защитное стекло и чехол, рассрочка будет действовать и на них. Кроме того, за покупку начисляется бонус – пакет мобильного интернета до 10ГБ. Компания МТС стремится сделать современные технологии доступнее. Рассрочка до 24 месяцев – следующий шаг в этом направлении.

«Предложение по рассрочке пользуется популярностью у наших абонентов, поэтому мы, учитывая пожелания клиентов, постоянно улучшаем условия продаж. Рассрочка до 24 месяцев разработана для того, чтобы ещё больше белорусов могли приобрести смартфон, который даст совершенно новый опыт пользования, в том числе и мобильным интернетом на 4G-скоростях», – отметил руководитель коммерческого департамента компании МТС **Николай Булаш.**

Подробности о предложении узнаете в салонах связи МТС и на сайте **shop.mts.by.**

# Беларуская чыгунка прапануе новую паслугу ў зносінах Мінск-Варшава

Ад 10 снежня штодзённа будзе курсіраваць **цягнік №128/127 Брэст – Варшава – Брэст** і **№728/727 Брэст – Мінск – Брэст**.

З Мінска цягнік будзе адпраўляцца ў **10:57** і прыбываць ў Брэст у **14:31**. Цягнік з Брэста да Варшавы будзе адпраўляцца ў **15:23** і прыбываць у Варшаву ў **17:29** (па мясцовым часе).

З Варшавы цягнік будзе адпраўляцца ў **8:44** і прыбываць у Брэст у **14:39** (па мясцовым часе). Да Мінска цягнік будзе адпраўляцца з Брэста ў **15:15** і прыбываць у Мінск у **18:49**.




Перасадка пасажыраў з цягніка ў цягнік будзе ажыццяўляцца на адной платформе Варшаўскага боку вакзала станцыі Брэст-Цэнтральны.

Па Беларусі будзе курсіраваць сучасны матаравагонны рухомы састаў з месцамі для сядзення другога класа. Памежны і мытны кантроль будуць праводзіць непасрэдна ў саставе цягніка Польскіх чыгунак.

Кош праезду ў зносінах Мінск – Варшава складае 41 рубель 21 капейку. Пры гэтым кошт праязнога дакумента можа мяняцца ў залежнасці ад курса еўра на дзень набыцця білета.

Для дзяцей ва ўзросце ад 4 да 12 гадоў прадугледжаная зніжка на праезд – 50% ад поўнага кошту. Дзеці да чатырох гадоў едуць бясплатна, не займаючы асобнае месца.

Пры набыцці білетаў у Беларусі будуць афармляць два білеты: адзін – ад Мінска да Брэста, другі – ад Брэста да неабходнай станцыі на тэрыторыі Польшчы, аналагічна пры адпраўленні з Варшавы падчас афармлення праезду ў Беларусі.

Пры набыцці білетаў у Польшчы будуць афармляць адзін праязны білет на ўсю дарогу і дзве нулявыя плацкарты з указаннем канкрэтнага месца ў цягніках.

На тэрыторыі Беларусі цягнік будзе спыняцца на станцыях Баранавічы-Цэнтральныя, Івацэвічы, Бяроза-Горад, Аранчыцы, Жабінка.

У Польшчы будуць прыпынкі Цярэспаль, Малашэвічы, Хатылуў, Бяла-Падляска, Меджынец-Падляскі, Лукаў, Сельдцэ, Мрозы, Мінск-Мазавецкі, Варшава.

У далейшым пасажыры змогуць набываць білеты за 60 сутак да пачатку паездкі.

Ад верасня 2016 года штодзённа курсіруе **цягнік № 304/303 Кракаў – Варшава – Гродна**. Кошт праезду ў цягніку Гродна – Кракаў – 50 рублёў 2 капейкі, у зносінах Гродна – Варшава – 36 рублёў 83 капейкі.

Мінскае аддзяленне Беларускай чыгункі
Станцыя Маладзечна УНП 600199541.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 16.11 | 23.11 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2,0057 | **2,0031** |
| Еўра | 2,3702 | **2,3553** |
| Злоты, 10 | 5,5890 | **5,5818** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3296 | **3,3939** |
| Грыўня, 100 | 7,5730 | **7,5022** |
| Курсы ў "Банку БелВЭБ" | 15.11 | 22.11 |
| Еўра | 2.3340/2.3700 | **2.3450/2.3600** |
| Долар ЗША | 1.9970/2.0080 | **2.0010/2.0150** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 15.11 | 22.11 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,69** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 7,13 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,20 | **4,20** |
| Селядзец, 1 кг | 4,00 | **4,00** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 3,20 | **3,50** |
| Бульба, 1 кг | 0,28 | **0,35** |
| Буракі, 1 кг | 0,30 | **0,60** |
| Гарбуз, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,29 | **0,29** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,29 | **0,99** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 2,85 | **2,95** |
| Перац, 1 кг | 5,30 | **4,99** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,15 | **2,10** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **2,99** |
| Гранат, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Грушы, 1 кг | 2,99 | **2,49** |
| Грэйпфрут, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,69 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,80 | **3,49** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,20 | **1,50** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00-8,00 | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

НАВІНЫ

## Міліцыя знайшла хлопца, які скраў куртку

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося 26 кастрычніка прыкладна ў 18:20.

Тады малады чалавек, знаходзячыся каля аднаго з гандлёвых павільёнаў, скраў з манекена мужчынскую куртку коштам 150 рублёў. Яго зафіксавалі камеры відэаназірання.

У маладзечанскім РАСК распавялі, што хлопца, 22-гадовага жыхара Маладзечанскага раёна, знайшлі. Малады чалавек расказаў, што прыехаў у горад за курткай з грашыма, якія дала маці. Аднак частку грошай патраціў на выпіўку.

Скрадзеную куртку міліцыянеры забралі. Цяпер хлопец чакае пакарання.

## За месяц накупляла на 2000, скарыстаўшы плацежную картку знаёмага

МАЛАДЗЕЧНА

29-гадовая маладзечанка была разам са сваім 55-гадовым знаёмым у адным з банкаўскіх аддзяленняў горада, калі мужчына афармляў там плацежную картку тыпу "Халва" з крэдытным лімітам 2000 рублёў.

Зрабіўшы картку, мужчына паклаў канверт з ёй у машыну, адвёз дадому знаёмую. Пасля аўтамабіль паставіў у гараж і быў упэўнены, што картка засталася там.

Аднак калі праз пэўны час картка спатрэбілася, гаспадар не знайшоў яе і звярнуўся ў міліцыю.

Як стала вядома, картку ў дзень выдачы з машыны скрала яго знаёмая. За час ад 5 верасня да 3 кастрычніка жанчына патраціла 1964 рублі. Па словах Юрыя Багушэвіча, старшага следчага маладзечанскага РАСК, жанчына пераважна купляла прадукты ў сетцы буйных супермаркетаў.

## З карткі знаёмага купіў выпіць, закусіць і скраў 1000 рублёў

МАЛАДЗЕЧНА

20 лістапада завялі крымінальную справу на 33-гадовага маладзечанца.

У верасні ён выпіваў у Маладзечне ў кампаніі, дзе былі мінчане, што прыехалі ў камандзіроўку.

54-гадовы мінчанін даў знаёмаму сваю картку, каб той набыў выпіўкі і прадуктаў, сказаў пін-код карткі. Маладзечанец набыў усё неабходнае і прынёс у кампанію, дзе працягнулі застолле.

Вярнуўшыся дамоў, жыхар сталіцы заўважыў, што з яго карткі знікла 1000 рублёў. Як стала вядома, грошы для сябе зняў жыхар Маладзечна.

Пра гэта расказаў старшы следчы маладзечанскага РАСК Юры Багушэвіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У Радашкавічах на пераходзе аўтамабіль збіў дзяўчыну

МАЛАДЗЕЧНА

Здарэнне адбылося каля сямі гадзін вечара 19 лістапада на аўтадарозе Мінск-Маладзечна-Нарач.

У гарадскім пасёлку Радашкавічы 37-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Родстэр-Смарт" у напрамку Маладзечна.

Машына наехала на 20-гадовую мясцовую жыхарку, якая пераходзіла праезную частку па нерэгуляваным пешаходным пераходзе. У выніку яе з атрыманымі траўмамі шпіталізавалі.

Дзяржаўтаінспекцыя Мінскай вобласці настойліва рэкамендуе ўдзельнікам дарожнага руху праяўляць павышаную ўвагу на дарогах і строга выконваць патрабаванні правілаў дарожнага руху.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Два чалавекі загінулі на пажары

ВАЛОЖЫН

Пажар здарыўся ноччу 21 лістапада ў вёсцы Улазавічы. Выратавальнікам паведамілі пра яго ў 2:40.

У выніку здарэння загінулі гаспадыня дома і яе сын. Іх целы выратавальнікі знайшлі ў адным з пакояў.

Прычыны пажару высвятляюць. Магчыма, здарэнне адбылося з-за неасцярожнасці пры курэнні.

**Паводле сайта МНС.**



# Хлопчык, які знік у Маладзечне 16 лістапада, загінуў

МАЛАДЗЕЧНА

**17 лістапада на канале аўтааматараў "Маладзечна. Без тармазоў" карыстальнік канала silence42 пакінуў наступнае паведамленне пра знікненне хлопчыка-падлетка.**

Карыстальнік паведаміў, што хлопчык знік 16 лістапада. Мабільны тэлефон пакінуў дома.



Хлопчыка шукалі бацькі, сваякі, супрацоўнікі Маладзечанскага РАУС і прадстаўнікі пошукава-выратавальнага атрада "Анёл". 18 лістапада ў суполцы "Анёла" з'явілася інфармацыя пра тое, што каля 17:00 15-гадовага хлопчыка знайшлі загінулым на ўскрайку Маладзечна, прыкладна ў кіламетры ад дома.

У маладзечанскай школе №1, дзе вучыўся падлетак, распавялі, што сям'я загінулага школьніка характарызуецца як добрая. Канфліктаў у школе і дома ў падлетка не было. Ён быў добрым, выхаваным, старанным вучнем. Настаўнікі да апошняга спадзяваліся, што хлопчык вернецца дадому жывым.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пачалася акцыя "Зімовыя шыны"

**Ад 24 лістапада да 3 снежня ДАІ Маладзечна праводзіць абласную прафілактычную акцыю "Зімовыя шыны".**

Паводле пункта 207(1) Правілаў дарожнага руху ад 1 снежня да 1 сакавіка аўтамабілі з тэхнічна дапушчальнай масай да 3,5 тоны ўключна, легкавыя і грузапасажырскія машыны з масай, больш за 3,5 тоны, і аўтобусы да 5 тон павінны быць абсталяваныя зімовымі шынамі. Іх ставяць на ўсе колы з выкананнем неабходных патрабаванняў.

Адказнасць за невыкарыстанне на машыне зімовых шын прадугледжаная часткай пятай артыкула 18.22 Адміністрацыйнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Парушальніка чакае папярэджанне або штраф да паловы базавай велічыні.

Зімовыя шыны, што выкарыстоўваюцца на абледзянелай і заснежанай дарозе, маркіраваныя знакам у выглядзе горнай вяршыні з трыма пікамі і сняжынкай або знакамі "M+S" " M& S" " M.S" " M S" або " All seasons&quot.

Падчас эксплуатацыі шыны маюць рэштkавую вышыню малюнка пратэктара не менш за чатыры міліметры. Калі ў зімовых шын гэтая вышыня меншая за чатыры міліметры, штраф складзе адну базавую велічыню за кіраванне транспартам, які мае няспраўнасці.

Калі парушэнне паўтараецца на працягу года, штраф будзе ад дзвюх да пяці базавых.

Для прычэпаў рэштkавая вышыня малюнка пратэктара шын аналагічная нормам для шын аўтамабіляў, з якімі яны счэпленыя.

Шыну лічаць непрыдатнай для выкарыстання, калі з'явіўся адзін індыкатар зносу на дне канаўкі пратэктара пры раўнамерным зносе або два індыкатары ў кожным з двух сячэнняў – пры нераўнамерным зносе бегавой дарожкі.

Цалкам спадзявацца на тое, што зімовыя шыны папярэдзяць ДТЗ, будзе няправільна, але пры пэўных умовах, калі кіроўцы не перавышаюць хуткасць, аўтамабіль на шынах з зімовым пратэктарам больш устойлівы і лепш "трымае" дарогу.

Акрамя зімовых шын, кіроўцу варта паклапаціцца пра тое, каб працавалі "дворнікі", абагрэў шкла, тармазы, быў неабходны ўзровень антыфрызу. Варта таксама заліць незамярзальную вадкасць у бачок, апрацаваць селіконавай змазкай замкі, петлі дзвярэй, капота, багажніка. Звярніце ўвагу на наяўнасць запаскі, дамкрата, буксіровачнага троса і знака аварыйнага прыпынку.

Калі ёсць сумненні ў надзейнасці акумулятара, лепш падзарадзіць або замяніць яго. Калі своечасова не замяніць паліўны фільтр (асабліва дызель), то першы мароз стане прычынай няспраўнасці рухавіка на дарозе.

Памятайце, што летняя гума пры мінусавай тэмпературы неэфектыўная, аўтамабіль можа паводзіць сябе непрадказальна. Падчас галалёду тармазны шлях павялічваецца ў некалькі разоў, зношаны пратэктар пакідае мала шанцаў на зімовай дарозе.

Выбірайце карэктную хуткасць і правільную дыстанцыю.

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС, капітан міліцыі.**

## Абмежавалі прамысловую і аматарскую рыбалку

МЯДЗЕЛ

**У восеньскі перыяд, у адпаведнасці з палажэннем аб нацыянальным парку "Нарачанскі", устаноўлены шэраг абмежаванняў па знаходжанні людзей на тэрыторыі нацыянальнага парку.**

Устанавілі некаторыя абмежаванні па прамысловым і аматарскім рыбалоўстве. Прамысловую рыбалку дазволілі толькі на азёрах Мястра, Баторына, Мядзел, Вялікія Швакшты, Свір, Вішнеўскае. На возеры Мядзел прамысловае рыбалоўства абмежаванае ад 15 лістапада да ўвядзення вясновай забароны на лоўлю рыбы ў сувязі з нерастам рапушкі.

На рацэ Страча, у межах нацыянальнага парку "Нарачанскі", у перыяд нерасту стронгі ручаёвай, унесенай у Чырвоную кнігу, ад 15 лістапада да ўвядзення вясновай забароны на лоўлю рыбы. Гэта значыць, да 1 красавіка забароненае любое аматарскае рыбалоўства, у тым ліку з выкарыстаннем любых вудаў і спінінгаў.

На азёрах Воўчына і Рудакова ад 15 лістапада да 15 снежня забароненае падводнае паляванне і выкарыстанне любога воднага транспарту.

Нагадваем, што на тэрыторыі нацыянальнага парку рэгламентаванае выкарыстанне лодак і катараў з рухавікамі ўнутранага згарання. Усім грамадзянам дазваляюць выкарыстоўваць водны транспарт з рухавікамі да 15 конскіх сіл.

У парку забаронена размяшчаць турыстычныя стаянкі і распальваць вогнішчы, за выключэннем спецыяльна абсталяваных месцаў.

За парушэнне абмежаванняў грамадзян чакае штраф ад 4 да 35 базавых велічынь, а юрыдычных асоб – да 500 базавых велічынь.

Больш падрабязную інфармацыю можна атрымаць у адміністрацыі нацыянальнага парку "Нарачанскі", у лясніцтвах, а таксама ў Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефоне **8 (01797) 50-7-40.**

**Валеры КЛЯНОЎСКІ, начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.**

# Калі дзіця паспяховае, беларуская мова не перашкодзіць у вучобе

## Як выхоўваюць дашкольнікаў у беларускамоўнай групе ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

**– Ну, калі ўжо да нас прыедзе прэзідэнт? – з самай раніцы чула на працы пытанне жыхарка Смаргоні Эдзіта Бранцэвіч.**

Напэўна, калі тваім выхаванцам па чатырыпяць гадоў, то блытаніна паняццяў "прэзідэнт" і "карэспандэнт" – не самая страшная памылка ў жыцці…

У смаргонскім садку беларускамоўныя групы тры – сярэдняя і дзве малодшыя. Я трапіла ў сярэднюю. На беларускай мове дашкольнікаў у ёй навучаюць другі год.

І выхавальніца гэтай групы Эдзіта Эдуардаўна шчыра спадзяецца, што беларускамоўнае выхаванне яе падапечных не скончыцца з прыходам у школу:

– Апошнія гады ў школе з першага класа беларускую мову не вывучалі як прадмет, а цяпер пачалі, хай сабе і вусна. Да таго ж усе беларускамоўныя групы ў нашым садку адчыненыя са згоды бацькоў. Магчыма, гэта згода будзе і пры паступленні дзяцей у школу.

З кожным з бацькоў на пачатку года гутарыць загадчыца садка, распавядае пра тое, што ёсць магчымасць адкрыць беларускамоўную групу. Пасля бацькі ідуць да выхавальніцы, ідуць з сумненнямі.

– Аднак мая ўпэўненасць у поспеху беларускага навучання сумненні бацькоў развенчвае, – смяецца педагог.

У садку Эдзіта Бранцэвіч працуе тры гады. Да гэтага была настаўніцай пачатковых класаў у школе. Чаму абарала дашкольную адукацыю? Лічыць, што ў садку больш прасторы для творчасці. А яшчэ штодзённыя кантакты з бацькамі падабаюцца.

### Як бацькі баяцца беларускай мовы

За сваю практыку жанчына заўважыла: беларускай мовы бацькі часта… баяцца:

– Не раз чула такія думкі, маўляў "маё дзіця нічога па-беларуску не разумее, таму і вучыцца дрэнна".

Не беларуская мова таму прычынай, перакананая выхавальніца, а няўпэўненасць, няўважлівасць.

**Калі дзіця паспяховае, мова не стане перашкодай. І такі прыклад жанчына бачыць ва ўласнай сям'і.**

Дачка Эдзіты Бранцэвіч па-беларуску вучылася ў смаргонскай гімназіі ад першага да адзінаццатага класа. Дзяўчына не звязала прафесію з мовай. Цяпер яна вучыцца на дызайнера.

Аднак падчас цэнтралізаванага тэставання абітурыентка атрымала 94 балы па беларускай мове і 96 – па гісторыі Беларусі. А ў створаных ёю мадэлях адзення нязменна прысутнічае этнастыль.

### Ляпілі птушак і танцавалі "Ручаёк"

– Вось пайшлі нашы патрыёты, – кажуць супрацоўнікі садка, калі, праходзячы па калідоры, выхаванцы сярэдняй групы дружна вітаюцца з усімі па-беларуску.

І як пасля гэтага дарослым не падцягнуць свае веды роднай мовы?

Раніцай з кіраўніком фізвыхавання дзеці робяць беларускамоўную зарадку, удзень спяваюць у музычнай зале беларускія песні. Сакавітай беларускай мовай валодае і памочніца выхавальніцы **Галіна Шунько**, ведае шмат прыказак, прымавак, дыялектных слоў.

Сама выхавальніца шмат ідэй для заняткаў з дзецьмі бярэ з курсаў "Мова нанова", стараецца не прапускаць розных беларускіх народных святаў, фестываляў, каб пасля нешта з убачанага правесці з дзецьмі. Навучылася рабіць лялек-матанак, і дзяцей навучыла. З'ездзіла на гуканне вясны, а потым разам з дзецьмі ў групе зладзіла такое свята. Дашкольнікі ляпілі з цеста птушак, заклікалі вясну абрадавымі песнямі, спрабавалі танцаваць "Ручаёк".

У беларускіх гульнях таксама няма недахопу. Толькі падчас майго нядоўгага знаходжання ў групе дзеці паказалі мне тры – "У вераб'я", "У Машу" і "У гарлачык".

### Дзед Мароз будзе размаўляць па-беларуску

Вялікім дасягненнем выхавальніца лічыць, што сёлетні навагодні ранішнік будзе беларускім.



Хлопчыкі Мацвей Найдзіч, Ілля Галко, Цімафей Забрамскі і Кірыл Шпак з выхавальніцай разважаюць, што можна наліць у збанок.

**Дзед Мароз, Снягурка, Лісіца – усе будуць размаўляць з малымі гледачамі на роднай мове.**

І асабліва цешыць выхавальніцу тое, што казачных персанажаў будуць іграць бацькі, больш за тое з іх – настаўнікі і медыкі. Некаторыя нават спецыяльна пераводзілі дзяцей у гэты садок і ў гэту групу.

Канешне, у дзіцячых размовах паміж сабой часам чуецца руская гаворка. Большасць дзяцей з рускамоўных сем'яў. Але, як падзялілася выхавальніца, можна пачуць, як адно дзіця павучае другое:

– Трэба казаць не "помогите, пожалуйста", а "дапамажыце, калі ласка".

Эдзіта Бранцэвіч лічыць, што дзеці-"білігвы" – якія гадуюцца ў сітуацыі двухмоўя, – больш развітыя, разумныя, чым іх аднамоўныя сябры:

– Размаўляць па-беларуску аўтаматычна дзеці яшчэ не могуць. Паглядзіце, як ім цяжка: спачатку зразумець пытанне па-беларуску, потым прадумаць па-руску адказ і зноў жа перакласці на беларускую мову. Таму гэта вялікае дасягненне для іх развіцця.

### Як залюлялі сыночка Яначку



"Люлі-лілі-люляшу. Я дзіцятка калышу…" Беларускую мову дзеці вывучаюць дзякуючы калыханкам. На фота – Ганна Коўшык.

Нейк выхавальніца заўважыла, што мову дзеці лепш запамінаюць праз песенькі. Таму летась доўгі час у групе вучылі розныя калыханкі. Тым больш, і папрактыкавацца ёсць дзе. У беларускім куточку стаіць калыска, зробленая бацькамі, а ў ёй – сынок Яначка.

Побач бабулін куток з папяровай печкай для таго, каб можна было пасядзець, адпачыць і, гледзячы на вогнішча, падумаць пра нешта сваё.

Па-беларуску ў групе вядуць усю дакументацыю, размаўляюць з бацькамі кожны дзень, а таксама падчас бацькоўскіх сходаў. І калі па першым часе пасля сваёй беларускай рэплікі выхавальніца чула "а сейчас переведите", то цяпер такіх пытанняў становіцца ўсё менш. Магчыма, ведучы дзіця ў такую групу, некаторыя з бацькоў думалі, што "беларускамоўнасць" будзе фармальнай, аднак такога не атрымалася.

І таты з мамамі ўсё больш далучаюцца да ініцыятыў выхавальніцы. Прыносяць з дому старыя рэчы, вышыванкі, зробленыя прабабулямі, нешта майструюць самі, набываюць лялек у беларускіх уборах, кніжкі на роднай мове.

– Наконт кніг я адразу сказала, што не трэба нам чытаць пра розных жахлівых бутэрбродаў з ножкамі і ручкамі, – кажа Эдзіта Эдуардаўна. – Таму на кніжных паліцах у нас чытанкі і малява́нкі – ад беларускіх пісьменнікаў.

На іншых паліцах – збанкі, гладышы, дамавічкі ды розныя іншыя фальклорныя персанажы, а яшчэ – смаргонскі мядзведзік.

– Знаёміцца з гісторыяй горада звычайна дашкольнікі пачынаюць у старэйшай групе, але мы крыху апярэджваем праграму, і пра смаргонскую мядзведжую акадэмію мае дзеці ўжо ведаюць, – пахвалілася выхавальніца.

Руская мова? Яе тут не забываюць. Кожную пятніцу ў групе – рускамоўны дзень.

Фота аўтара



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)




# Куплю
# Прадам
# Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

## ВІНШАВАНКА

**Валянціне Паўлаўне ФІЛІСТОВІЧ з Маладзечна**

Віншуем з днём нараджэння!



*Пусть минуты все будут счастливыми,*
*Нежных слов и улыбок полны.*
*Жизнь эмоции дарит красивые,*
*И пленит аромат новизны!*
*Комплиментов, цветов, восхищения,*
*В каждом дне находить вдохновение,*
*И тепло в своём сердце беречь!*
Моцнага табе здароўя!

**З любоўю муж і сын.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

- Аўдзі-А6С5, 2001 г.в., 2,5тді куатро, белы колер, скураны салон, літыя дыскі, кліма, універсал. Т. (8-029) 5676488.
- ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*
- ВАЗ-2107, 1991 г.в., цана дагаворная. Т. (8-029) 8240835
- Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*
- Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Опель-Астра Ф, 1,6 мона, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Пежо-205, 605 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*
- Пежо-405, 1993 г.в, 1,6 бензін, торг. Т. МТС (8-033) 6330577.*
- Таёта-Карола, 2014 г.в., 1,6Б,. Т. Вэлком 3063523.*
- ФВ-Гольф, 1989 г.в., 1,3 аб'ём, аварыйны, 3-дзверны. Нядорага. Т. (8-029) 2766295.*
- Хундай-Лантра, 1993 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*
- Прычэп да легкавога аўтамабіля Зубраня, 1989 г.в., добры стан. Т. (8-029) 6017546.
- **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*
- Зімовая гума R15, дыск R15 да Міцубісі, гума з камерай R13, адна летняя гума R14. Т. (8-029) 5771112.
- Зімовая гума на дысках для Аўдзі з калпакамі – 4 шт., R16 205х55. Т. (8-029) 7700689.*
- Зімовыя шыны б/у 185/65-R15 (Францыя). Т. (8-029) 6207706.





## НЕРУХОМАСЦЬ

### КУПЛЮ

- Аўто ў любым стане. Т. (8-029) 1261119.*
- **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***
- Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*
- Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *
- Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

### ІНШАЕ

- Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ПАСЛУГІ

- **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*



- Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

### ПРАДАЕЦЦА

- 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля, 2016 г., цэгла, 2-гі паверх. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*
- 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*
- 1-пакаёвыя кватэры ў г. Мядзел і к.п. Нарач, новабудоўлі, з рамонтам і мэбляй. Т. (8-044) 5613160 Вэлком.
- 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*
- 3-пакаёвая кватэра на першым паверсе. Падрабязнасці па тэлефоне. Т. (8-029) 6333777, (8-029) 6888111.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, вул. Гагарына, 2 паверх, з еўрарамонтам. Нацяжная столь, ламінат, шклопакеты, італьянская плітка, замененыя праводка, трубы. Побач лес, басейн, д/сад, магазіны і інш. Т. (8-029) 6958714.*
- 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 5 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Торг. Т. МТС (8-029) 5588540.



- Гараж у ГБК Ізбіна, г. Вілейка. Т. (8-029) 2375721.
- Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*
- Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3х6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.
- Дом жылы ў Маладзечне, газавае ацяпленне, 7 сотак, нядорага. Т. (8-029) 6691789.*
- Дом жылы драўляны, абкладзены сайдынгам, у Маладзечне (раён Старога Места), 12 сотак, вада, электрычнасць, каналізацыя (мясцовыя), гараж, лазня санвузел у доме. Т. МТС (8-029) 8208556.
- Дом у в. Любань. Звяртацца па тэл. (8-029) 5689794.*
- Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*
- Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

### МЯНЯЮ

- Дом у вёсцы, 8 км ад Вілейкі, на 1-пакаёвую кватэру. Т. (8-033) 6843536.

### ЗДАМ

- 2-пакаёвую кватэру на доўгі тэрмін. Макаўе. Т. (8-029) 8505995.
- Гараж у ГБК № 12 г. Маладзечна. Т. (8-029) 8709772.
- Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*



## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

- Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

- **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

- Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*
- Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

## СПАЧУВАННЕ

Калектыў "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырае спачуванне калегу з "Маладзечанскай газеты" **Алегу Бяганскаму** з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора – смерці маці.

# Мужчыны ў белым і піца за 20 долараў:

## маладзечанец распавёў пра паездку ў Абу-Дабі

МАЛАДЗЕЧНА

**Чаму ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах нельга выпіць больш за два кубкі кавы і выпадкова дакрануцца да таліі незнаёмай жанчыны, распавёў майстар вытворчага навучання Маладзечанскага дзяржаўнага каледжа Мікалай Цалко.**



Фота з архіва Мікалая ЦАЛКО.

Паміж мерапрыемствамі міжнароднага конкурсу ў майстра Мікалая Цалко быў вольны час для экскурсій.

У кастрычніку маладзечанец у складзе беларускай дэлегацыі наведаў Міжнародны чэмпіянат свету па рабочых спецыяльнасцях WorldSkills.

Чэмпіянат ладзяць раз на два гады. Сёлета ён праходзіў у Абу-Дабі – сталіцы Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў. Чаму з камандай Беларусі вырашылі накіраваць майстра з Маладзечна?

Мікалай Яўгенавіч працуе з моладдзю 30 год, а яшчэ мае паспяховы досвед падрыхтоўкі навучэнцаў да конкурсаў прафесійнага майстэрства рознага ўзроўню. Да паездкі ў Абу-Дабі была паездка ў Шанхай, дзе выступаў яго вучань **Ціхан Кавальчук**.

Гадзіна на самалёце да Кіева, потым яшчэ пяць – і маладзечанец прызямліўся ў Дубаі. А жыў у гасцініцы побач з Персідскім залівам.

– Адразу адчуў, што краіна – не для адпачынку, – дзеліцца Мікалай Яўгенавіч. – Гарачыня неймаверная.

Па яго словах, значную частку бюджэту краіны тут выкарыстоўваюць на паліванне дрэў і газонаў, па якіх разгульваюць паўліны.

Майстар з Маладзечна ехаў паназіраць за ўсімі рабочымі пляцоўкамі на конкурсе. А іх было столькі, што разгледзець кожную не атрымалася. Па словах майго субяседніка, дзейства адбывалася на плошчы, роўнай некалькім футбольным манежам.

– Мне асабліва цікавымі былі рабочыя спецыяльнасці, – згадвае майстар. – Доўга назіраў за працай кітайцаў. Заўважыў, што ў іх да ўсяго навуковы падыход. Усе рухі – разлічаныя. Няма мітусні, не трацяцца хвіліны на пошук інструментаў.

Мікалай Яўгенавіч перакананы, што, адпраўляючы моладзь на такі конкурс, трэба падрыхтаваць іх псіхалагічна. Прыгадвае такі выпадак, калі дзяўчына так знервавалася, што ўсё кінула і збегла проста з пляцоўкі.

Тэматыка міжнароднага чэмпіянату прафесій была прывязаная да архітэктуры і гісторыі краіны. Напрыклад, будучыя сталяры рабілі драўляныя рамкі ў выглядзе будынкаў – славутасцяў сталіцы. А муляры з каменяў выкладалі сокала – птушку, што размешчаная на гербе Эміратаў.

У камандным заліку першае месца занялі расіяне. Таму ў 2019 годзе міжнародны турнір праведуць у Казані. Беларусы ж занялі 16 месца сярод 68 краін.

### Вучаць на нафтавікоў і геолагаў

У каледжы, які наведалі беларусы, будучых сталяроў, муляраў, сантэхнікаў не сустрэнеш. Тут вучаць геалагічнай разведцы, нафтаперапрацоўцы, догляду за хворымі.

Вучыцца могуць толькі грамадзяне краіны. А па "класічных" рабочых спецыяльнасцях працуюць прыезджыя – індусы, пакістанцы.

У каледжы ўсе займаюцца па планшэтах. На сценах – ніякіх плакатаў. Замест іх – сучасныя наглядныя дапаможнікі. Будучым геолагам на занятку раздаюць кавалкі сапраўдных горных парод. Шмат увагі надаюць практыцы. Напрыклад, у якасці экзамену можа быць заданне – прабурыць свідравіну.

Навучанне складаецца з некалькіх блокаў. Калі навучэнец не засвойвае матэрыял, ён можа ўзяць дадатковы блок. Перш чым паступаць у каледж, абітурыент шукае сабе спонсара – чалавека, які можа даплачваць яму стыпендыю, а пасля возьме на працу. Гэтыя ўмовы пазначаюцца ў дагаворы. Знайсці такога чалавека ў Эміратах не цяжка. Тут развітая кланавасць, арабы падтрымліваюць адзін аднаго.

Спонсар абавязкова прысутнічае на выпускным экзамене. Ён жа вырашае, колькі маладых спецыялістаў павінны адпрацаваць у яго.

Ёсць у Абу-Дабі школы, асобныя для хлопчыкаў і дзяўчынак. Ёсць і агульныя. У такой пабывалі госці з Беларусі. Аднак тут хлопчыкі традыцыйна сядзяць на першых партах, а дзяўчынкі – ззаду.

### Як арабы клапоцяцца пра захаванне нацыі

– Адразу заўважаеш, – дзеліцца Мікалай Яўгенавіч, – што мужчыны ходзяць па вуліцах у прыгожай белай-белай вопратцы. Хадзіць у брудным – грэх. Але там і выпацкацца няма дзе.

Гасцей усюды сустракалі нацыянальнай кавай. Яе п'юць маленькімі кубачкамі, наліваюць прыкладна па 20 грамаў. Па правілах этыкету, госць можа выпіць да двух такіх кубачкі. Калі ж вып'е тры, гэта лічыцца дурным тонам.

Непрыемная сітуацыя, распавёў Мікалай Яўгенавіч, здарылася з казахскай камандай. Адзін з экспертаў, праходзячы па шматлюднай вуліцы, выпадкова дакрануўся да таліі мясцовай жанчыны. Адразу ж выклікалі паліцыю і казахскага калегу дэпартавалі з краіны.

Тут, у мусульманскай краіне, фатаграфаваць жанчын можна толькі ззаду. Мужчын фатаграфаваць можна з іх дазволу.

У Эміратах падтрымліваюць шлюбы паміж арабамі. Такой сям'і даюць значную грашовую дапамогу, крэдыты, субсідыі. Арабы вельмі клапоцяцца пра захаванне нацыі.

А грамадзянства тут атрымаць складана. Прасіць яго можна, як пражывеш у краіне 30 год. Але і тады не факт, што ты станеш грамадзянінам Эміратаў.

### Дадому вёз духі і ласункі

Кошты на прадукты – розныя, але ў большасці вышэйшыя, чым у нас. У піцэрыі за адну піцу аддасі 15-20 долараў, абед у кавярні каштуе 20-30 долараў.

Вялікія супермаркеты, па назіраннях Мікалая Яўгенавіча, амаль не адрозніваюцца ад беларускіх. Хіба што палічка з фінікамі і нацыянальнымі ласункамі ёсць у кожным.

– Якія падарункі прывезлі сям'і? – пытаюся ў субяседніка.

– У Эміратах сваё – толькі нафта, фінікі ды іншыя ласункі, астатняе ўсё прывозяць, – распавёў майстар. – Таму жонцы і дачцэ прывёз фінікі і алейныя духі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# “Усё галоўнае яшчэ наперадзе”

## Маладзечанскаму Палацу культуры – 15 гадоў

МАЛАДЗЕЧНА

**На ўрачыстасць, якая адбылася 16 лістапада ў малой зале Палаца культуры, запрасілі не толькі тых, хто працаваў і працуе ў галіне культуры, але і, у першую чаргу, будаўнікоў, якія 15 гадоў таму падарылі Маладзечну той самы дыямент, імя якому Палац культуры.**

Многа цёплых і шчырых слоў было сказана ў гэты дзень дырэктару Палаца культуры **Святлане Сароцы** і яе калектыву.

А калі хтосьці з выступоўцаў параўнаў калектыў палаца з ружамі, то Святлана Сарока ўзяла вялізны букет ружаў і падарыла кожнай сваёй работніцы па кветцы.

На пачатку ўрачыстасці прагучалі словы аб тым, што для Сусвету 15 гадоў – гэта толькі імгненне. А вось для калектыву, як для жывога арганізма, – гэта цэлая эра: з узлётамі, цяжкасцямі, пераадоленнем і пазіркам у будучыню.

За гэтыя гады ў палацы прайшло больш за 6000 мерапрыемстваў рознага ўзроўню – ад мясцовых да міжнародных. Палац – уладальнік 157 Гран-пры ў конкурсах розных узроўняў. Сёння ў палацы працуюць 35 калектываў, у якіх занятыя больш за 1000 чалавек.

На ўрачыстасці, прысвечанай 15-годдзю Палаца культуры, да слоў удзячнасці дадаліся і ўзнагароды ад Міністэрства культуры, Мінскага аблвыканкама і Маладзечанскага райвыканкама.

Нагрудныя знакі Міністэрства культуры “За ўклад у развіццё культуры Беларусі” ўручылі: намесніцы дырэктара па арганізацыйна-кадравай рабоце **Галіне Акулёнак**, намесніцы дырэктара па інфармацыйнай і канцэртнай дзейнасці **Але Яцыне**, мастацкаму кіраўніку палаца **Валянціне Жаўняровіч**.

Ганаровымі граматамі Мінаблвыканкама адзначаны кіраўнік узорнай эстраднай студыі “Жывы гук” **Дзмітры Рудык** і кіраўнік тэатра мініяцюр “Брава” **Надзея Сідарэнка**.

Узнагароды атрымалі і іншыя працаўнікі Палаца культуры.

Старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**, калі віншаваў з юбілеем, прызнаўся, што калі яшчэ не быў кіраўніком горада, прыязджаў сюды і зайздросціў маладзечанцам, што ў іх ёсць такі палац. Месца, дзе не толькі жыве творчасць і прыгажосць, а месца, дзе, у першую чаргу, вядзецца творчае выхаванне дзяцей.

Падчас віншаванняў прагучала шмат цёплых слоў, Святлане Сароцы і яе калектыву падарылі шмат кветак і падарункаў.

І толькі **Мікалай Чурсін**, былы старшыня Маладзечанскага райвыканкама, сказаў:

– Я сёння без падарунка, бо свой падарунак – гэты дыямент – я падарыў вам 15 гадоў таму.

І прыгадаў, што 15 год таму вяліся спрэчкі наконт таго, ці прызначаць Святлану Сароку дырэктарам палаца.

– А сёння, калі вы яе хваліце, – звярнуўся Мікалай Чурсін да залы, – мне прыемна ўдвая, бо я разумею, што тады ў гэтай дзяўчынцы не памыліўся.

Святлана Сарока адказала, што тады ж ёй прапанавалі весці перадачу на тэлебачанні, але і яна ні разу не пашкадавала, што выбрала пасаду дырэктара.

– Толькі мы з ёй ведаем, – працягнуў Мікалай Чурсін, – колькі слёз было выплакана ў той час, калі палац трэба было пабудаваць за чатыры месяцы.

Менавіта таму, аднымі з самых пачэсных гасцей на ўрачыстасці і былі прадстаўнікі будаўнічых арганізацый.

– Я хачу выказаць ім асаблівыя словы падзякі, – сказала Святлана Сарока, – бо гэта яны, 37 будаўнічых арганізацый, працавалі ў тры змены, каб пабудаваць наш палац.

Прыгадала дырэктар і пра форс-мажоры, калі да пачатку канцэрта заставалася гадзіна, а рабочыя сцэны дэкарацыямі разбіваюць акно. І тады на дапамогу прыходзяць будаўнічыя арганізацыі Маладзечна, якія літаральна за хвіліны паспяваюць замяніць шкло.

Палац культуры будаваўся 11 год. Праўда, з перапынкам у восем гадоў. Але вось ужо 15 гадоў ён працуе без перапынкаў, каб сваім жыццём пацвярджаць думку пра тое, што ўсё галоўнае яшчэ наперадзе.

**Наталля ТУР.**













**На ўрачыстасці з нагоды 15-годдзя Палаца культуры гучалі шчырыя словы ў адрас Святланы Сарокі, фота 1, і ўсяго калектыву палаца. А таксама заслужанымі ўзнагародамі адзначаны Святлана Адамушка (фота 3), Аляксандр Важнік, фота 4, і іншыя работнікі палаца. Са словамі прывітання звярнуліся прадстаўнікі Міністэрства культуры, Маладзечанскага райвыканкама, а таксам былы старшыня Маладзечанскага райвыканкама Мікалай Чурсін, фота 2. Больш фота на сайце rh.by/ Фота Наталлі ТУР.**




Фота з архіва ЦДзМ "Маладзік".

Ангеліна Варатынская паказвае адзін з нумароў газеты "Маладзік".

## "Свежы вецер" падзьмуў з "Зубраняці"

МАЛАДЗЕЧНА

**Газета "Маладзік" цэнтра творчасці дзяцей і моладзі стала пераможцай XIII рэспубліканскага фестывалю-конкурсу дзіцячых СМІ "Свежы вецер" у намінацыі "Лепшая газета".**

Вынікі фестывалю падвялі ў Нацыянальным дзіцячым адукацыйна-аздараўленчым цэнтры "Зубраня" падчас змены "Прэс-перспектыва". Акрамя газет, тут вызначыліся пераможцы ў конкурсах часопісаў, радыё- і відэапраграм.

Газета "Маладзік" выдаецца з 2004 года тыражом 200 асобнікаў. Увесь кантэнт выдання ствараюць дзеці. Навучэнцы гуртка "Школа журналістыкі" пішуць артыкулы, прыдумваюць рубрыкі і прапануюць новыя ідэі. Напрыклад, у рубрыцы "Адкрыты мікрафон" кожны ахвотны можа выказаць сваё меркаванне на хвалюючую яго тэму або падняць пэўную праблему. А на першай паласе ў выпусках ушаноўваюцца пераможцы розных конкурсаў і спаборніцтваў.

– У кожным нумары мы імкнёмся прадставіць разнастайныя жанры: інфармацыя, нататка, інтэрв'ю, апытанне, рэпартаж, нарыс, – распавядае рэдактар газеты **Ірына Бубнова**. – Акрамя чорна-белага варыянту, часам мы рыхтуем невялікія тэматычныя выпускі. Напрыклад, у гэтым годзе ён быў прысвечаны 500-годдзю беларускага кнігадрукавання.

Фестываль "Свежы вецер" сабраў юных журналістаў з усіх куткоў краіны. Усю змену падлеткі актыўна спасцігалі асновы журналістыкі, а таксама імкнуліся максімальна развіць і паказаць свае здольнасці і таленты. Праводзілі даследчыя работы, актыўна прымалі ўдзел у дэбат-турнірах і выказвалі ўласны пункт гледжання падчас дыскусій.

На працягу дваццаці дзён з юнымі карэспандэнтамі працавалі студэнты Інстытута журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, якія самі не так даўно былі выхаванцамі "Зубраняці" і з'яўляліся ўдзельнікамі такой жа змены. Падчас майстар-класаў доследам падзяліліся і прафесійныя журналісты з дзіцячых і юнацкіх выданняў.

– Змена была багатай на яркія і цікавыя падзеі. Мы здымалі рэпартажы і пісалі нататкі, пабывалі ў Доме прэсы, – дзеліцца ўражаннямі **Надзея Пасека**, навучэнка гімназіі №10 горада Маладзечна, якая прадстаўляла газету "Пасhатак". – За гэты час я авалодала многімі карыснымі навыкамі: навучылася гаварыць на камеру, правільна браць інтэрв'ю і запісваць радыёпраграму. Але самае галоўнае, я пазнаёмілася з выдатнымі людзьмі, інтарэсы якіх цалкам супадаюць з маімі.

Усяго на змене "Прэс-перспектыва" гасцявалі 220 юных журналістаў, многія з якіх выбралі свой жыццёвы шлях менавіта там, у "Зубраняці". І хто ведае, можа, праз некалькі гадоў іх імёны будуць вядомыя ўсім.

**Карына МІКЛУШЫС, навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

# Знялі "Майсея Колю" – фільм пра подзвіг Мікалая Кісялёва

ВІЛЕЙКА

**З'явіўся першы трэйлер мастацкага фільма "Майсей Коля" – у лютым Рэгіянальная газета" пісала пра пачатак працы над гэтай стужкай.**

Расказвае яна пра подзвіг Мікалая Кісялёва, які ў 1942 годзе выратаваў 218 яўрэяў з даўгінаўскага гета.

Здымкі пачаліся ў канцы жніўня і завяршыліся ў кастрычніку. Стужку здымалі ў Расіі – у Цвярской вобласці, пад Зубцовам і Ржэвам. Цяпер пачаўся постпрадакшн і мантаж фільма. На экраны стужка павінна выйсці ў наступным годзе.

Перад пачаткам здымкаў у гасцях у кампаніі "Альба Фільм" пабывала дачка галоўнага героя фільма Мікалая Кісялёва – **Таццяна Кісялёва**.

– Мілая, разумная, абаяльная жанчына. Добразычлівая і спагадлівая. Шмат расказвала пра тату і маму. Дэталі, аблічча і іншае – бо іх ужо няма ў жывых. Яна чытала наш сцэнарый і цалкам ухваліла яго. І благаславіла нас на здымкі, – піша ў групе "Кінапраект "Майсей Коля" у Фэйсбуку прадзюсар і рэжысёр праекта **Сяргей Бялошнікаў**. – У мяне было вельмі дзіўнае адчуванне падчас гэтай сустрэчы. Напэўна, таму што Таццяна Мікалаеўна вельмі падобная на бацьку. І на маму – таксама. І яшчэ таму, што раптам наша кінагісторыя і гісторыя нашай Радзімы ажывае, калі глядзіш у вочы дачкі тых, пра каго ты збіраешся здымаць кіно.



Фота з групы "Кінапраект "Майсей Коля" ў Фэйсбуку

Мікалая Кісялёва ў фільме сыграў Сяргей Барадзін.

Ролю Мікалая Кісялёва выконвае акцёр маскоўскага тэатра на Паўднёвым Захадзе **Сяргей Барадзін**, яго будучай жонкі Ані – актрыса **Святлана Пярвушына**. Акцёры гэтыя асаблівa не засвечаныя ў кіно і серыялах. Гэтага і дабіваўся Сяргей Бялошнікаў.

– Не хачу, каб было так: вы ўключаеце тэлевізар і бачыце, як наша актрыса Святлана Пярвушына іграе гламурную дзяўчыну. А праз гадзіну на іншым канале яна ўжо партызанка Аня, – прыводзіць яго словы выданне tverlife.ru.

Цікава, што ў апошнія гады да асобы Мікалая Кісялёва ў расійскіх кіношнікаў прачнуўся вялізны інтарэс. У 2016 годзе на пітчынгу (прэзентацыя кінапраекта дзеля знаходжання інвестараў) у Міністэрстве культуры Расійскай Федэрацыі прадстаўлялі адразу два праекты пра партызана – "Майсей Коля" і "Праведнік". Фінансаванне атрымаў "Майсей Коля". Сёлета на пітчынгу ў Фондзе кіно прадставілі праект "Вялікая зямля".

Плануецца, што галоўную ролю ў фільме сыграе вядомы акцёр **Сяргей Бязрукаў**.

Паводле інфармацыі на сайце акцёра, фільм "Вялікая зямля" знаходзіцца на стадыі падрыхтоўчага перыяду.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка "РГ".**
Да лета 1942 года ў жывых засталося толькі 278 яўрэяў з даўгінаўскага гета. Выратаваў 218 з іх партызан Мікалай Кісялёў, які вывеў іх за лінію фронту. Людзі ішлі па акупаванай тэрыторыі ад канца жніўня да кастрычніка.
**Трэйлер** – невялікі відэаролік, які складаецца з кароткіх фрагментаў фільма. Выкарыстоўваецца для анансавання або рэкламы кінастужкі.
**Постпрадакшн** – этап вытворчасці кіно, наступны за здымкамі. Перыяд апрацоўкі відэаматэрыялу, агучвання і апрацоўкі матэрыялу фільма.

## Зарабляйце добрай вучобай падарункі

Калі вы марыце пра планшэт і вучыцеся ў школе – вам застаецца толькі выдатна вучыцца, дасылаць нам бланкі і быць адным з прэтэндэнтаў на галоўны падарунак акцыі "Дзясятачка".

Атрымлівайце 9 і 10 па любых прадметах, запаўняйце бланкі з газеты, дасылайце ў рэдакцыю – і мы пастараемся прыехаць у ваш клас і падбадзёрыць. Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа!

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Удзельнічаць у акцыі могуць вучні любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў, якім споўнілася 12 год.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за гэты навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

### Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№47)

1. Імя, прозвішча________________________
2. Дата нараджэння ________________________
3. Клас
   Школа________________________
4. Населены пункт________________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ________________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10")__________
8. Дата атрымання адзнакі ________________________
9. Імя, імя па бацьку ________________________
10. Прозвішча настаўніка ________________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам________________________
12. Подпіс настаўніка________________________

# Верасень 1939-га ў гісторыі нашага краю. Малавядомае...



Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

Гарнізон польскіх памежнікаў на Брыцкім.

ВІЛЕЙКА

**Сёлетнім вераснем споўнілася 78 год, як савецкая армія перайшла савецка-польскую мяжу. Як гэта адбывалася ў нашых мясцінах?**

На досвітку 17 верасня 1939 года з боку Краменца і Мышыц на Батурына з крыкам “ура-а-а-а” пайшла невялікая групоўка бальшавіцкіх вайскоўцаў. Захапіўшы без стрэлаў стражніцу ў Батурыне, якую польскія памежнікі па загадзе камандавання пакінулі яшчэ з вечара, бальшавікі рушылі на Брыцкае, дзе знаходзіўся польскі гарнізон.

**Атрымаўшы нечаканае супраціўленне, яны вымушаны былі адступіць да Старынак, каб дачакацца галоўных часцей савецкага войска.**

### Калектывізацыя і рэпрэсіі

Гэтым часам гарнізон зняўся і ў спешным парадку пачаў адступаць на захад. Пад Ашмянамі паміж адступаючым гарнізонам з Брыцкага і чырвонаармейцамі завязаўся бой, у якім большая частка польскіх жаўнераў загінула, а астатнія трапілі ў бальшавіцкі палон. Трапіў у палон і паручнік Пётра Сыч, але нейкім чынам яму ўдалося збегчы.

Пачалася калектывізацыя, той, хто меў сваю зямлю, страціў яе. Такім шляхам і шляхам абкладання вялікімі падаткамі бальшавікі прымушалі сялян ісці на працу ў арганізаваны ў Галянове саўгас.

Пасля калектывізацыі пачаліся рэпрэсіі. Вярнуўшыся ў Батурына з палону, Пётра Сыч быў арыштаваны і змешчаны ў Вілейскую турму. Пасля допытаў і катаванняў яго перавезлі ў Полацк. У 1940 годзе пасля прысуду да 10 год лагера быў сасланы ў Комі. У Батурыне засталася яго цяжарная жонка і чатырохгадовая дачка Броня.

### Шарэнга чырвонаармейцаў

Савецка-польская мяжа пралягала ў вярсце на ўсход ад Дварца. Яе польскія жаўнеры пакінулі яшчэ надвячоркам 16 верасня. А на досвітку наступнага дня з боку панышоўскай польскай стражніцы ў накірунку Хаценчыцаў паходным маршам пацягнуліся шарэнгі савецкіх вайскоўцаў. Калона рухалася паміж Дварцом і Рабцамі. Усе жыхары гэтых вёсак высыпалі са сваіх хат да той дарогі, каб падзівіцца на войска.




Фота забяспечана Алесем РАТКЕВІЧАМ.

Савецка-польская мяжа.

**Без пагонаў ды з анучамі на нагах замест ботаў, бальшавіцкае войска мела выгляд хутчэй арыштантаў, чым вайскоўцаў.**

Жыхары спачатку з усмешкай назіралі за вайсковай калонай. А пасля ў аднаго з чырвонаармейцаў разматалася анучча на назе, а вайсковец, які ішоў за ім, на яе наступіў. Спрацаваў прынцып даміно, у адну кучу адразу завалілася чалавек сем, і ўстрымацца ад смеху было немагчыма. Калона спынілася, на ўсё наваколле разляцеўся рогат і салдат, і жыхароў.

Прыгоды на гэтым не скончыліся. Калі да іх вярхом на кані пад’ехаў камандзір, чырвонаармейцы з “кучы-мала” пачалі хуценька падымацца.

**І ў гэты момант пры спешцы ў аднаго з вайскоўцаў выпадкова стрэліла трохлінейка проста пад ногі жарабцу.**

Той ад пярэпалаху падняўся на дыбы і скінуў верхавога. Стала ціха, а пасля, як ўбачылі, што ніхто не пацярпеў, зарагаталі яшчэ мацней.

Незапланаваны вайсковы прывал абарваўся ў адну хвіліну пасля таго, як у гутарку да вайскоўцаў пачалі ўмешвацца мясцовыя жыхары на польскай мове. Для чырвонаармейцаў гэта быў гром з яснага неба. Смех раптам сціх. Камандзір аддаў загад станавіцца ў калону і закамандаваў: “Ш-а-а-гам марш!”

**Алесь РАТКЕВІЧ, Чысць.**

Артыкул паводле расказаў жыхарак вёскі Батурына, што ў некалькіх кіламетрах ад Брыцкага **Марыі Гадзеўскай** (дзявочае прозвішча **Гейна**), **Ганны Васько (Арцішэўская)**, **Браніславы Тарадайкі (Сыч**, дачка Пятра Сыча**)**, **Соф’і Дзік (Кратовіч)** з Дварца.

---

КАЛЯНДАР

25 ЛІСТАПАДА

**1970.** У Клюшчанах Астравецкага раёна памёр **Адольф Клімовіч**, грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец, вязень савецкіх канцлагераў.

26 ЛІСТАПАДА

**Сусветны дзень інфармацыі.**

**100 гадоў** з часу стварэння (1917) Абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту, фарміраванне Савета народных камісараў.



**1885.** У Канстанцінопалі памёр **Адам Міцкевіч**, польскі паэт, цесна звязаны з Беларуссю, асветнік, філамат. Першапачаткова пахаваны ў Парыжы (Францыя). 4 ліпеня 1890 года перапахаваны ў Вавельскім замку (Кракаў, Польшча).



**1930.** Нарадзіўся **Уладзімір Караткевіч**, беларускі паэт, празаік, драматург, перакладчык, сцэнарыст, класік беларускай літаратуры. Адна з найбольш яскравых постацей у беларускай літаратуры другой паловы 20 стагоддзя. Першы беларускі пісьменнік, які звярнуўся да жанру гістарычнага дэтэктыву.

27 ЛІСТАПАДА

1938. Расстраляны **Сымон Рак-Міхайлоўскі**, грамадска-палітычны дзеяч, сябар Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, публіцыст, заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (1920-1922).

29 ЛІСТАПАДА

**1949.** У савецкім канцлагеры пад Тайшэтам (Іркуцкая вобласць) забіты **Адам Станкевіч** (паводле іншых звестак, 4 снежня), беларускі рымска-каталіцкі святар, грамадска-культурны дзеяч, асветнік, культуролаг, выдавец, публіцыст. Нарадзіўся ў в. Арляняты (Смаргонскі раён). Пахаваны на могілках Азярлага каля в. Шаўчэнкі Іркуцкай вобласці.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Свеціць Нобелеўская, але паслядоўн доктар біялогіі, які ладзіў пікет за "П

ВІЛЕЙКА

**Доктарскую дысертацыю ён абараніў па-беларуску. Ведаеце, па якой тэме? "Сінтаксанамія й сіндынаміка лугавой расліннасці Беларусі". Гэта быў першы выпадак, калі абаронена беларускамоўная праца ў прыродазнаўчай галіне. А ў дысертацыі адну главу навуковец напісаў лацінай – для зручнасці і таму, што палічыў гэта правільным.**

Сёння ў нас у гасцях навукоўца, які распрацаваў уласную сістэму напісання лацінай. Спрычыніўся да вырашэння праблемы тэхнагеннага, у тым ліку радыяцыйнага, забруджання прыродных экасістэм, а таксама цыркарыёзу, ці каросты, на Нарачы. Улучыўся ў развязанне глабальнай навуковай праблемы – стварэння сістэмы раслінных супольніцтваў. Гэта Язэп Сцепановіч, які нарадзіўся ў сям'і калгасных работнікаў у Лыцавічах Вілейскага раёна.

## Бацька таптаў медалі за вайну

Міхаіл Іосіфавіч, бацька нашага госця, быў інвалідам вайны, з сям'і рэпрасаваных. Жорстка ненавідзеў савецкую сістэму. Меў шмат медалёў за вайну – "За адвагу", "За ўзяцце Кёнігсберга" і іншыя – і таптаў іх.

У 1939 годзе бацьку забралі ў Чырвоную армію. Накіравалі ў Брэст будаваць аэрадром. Там і застала вайна. Ён некалькі сутак быў са зброяй у адной бялізне, нічога не выдавалі. Пасля прыйшоў загад адступіць. Падчас адступлення і налёту варожай авіяцыі параніла, ледзь не адрэзалі руку, але не даўся: "Хоць цыгарэту трымаць і гузік зашпіліць пакіньце". Было яму 27 год.

Трапіў у нямецкі палон, збег, мусіў хавацца. Ваяваць не хацеў ні на якім баку.

## Чаму бацька ненавідзеў савецкую ўладу

У 1937 бальшавікі расстралялі брата бацькі **Якуба** ў Маскве. У 1917 годзе апантаны ідэямі сацыял-дэмакратыі Якуб у Лыцавічах змовіўся, каб ляснік пераравёў праз мяжу фронту ў суседнюю вёску. Пасля апынуўся ў Пецярбургу, удзельнічаў у бальшавіцкім перавароце.

– Пераехаў у Маскву, быў кіраўніком прадпрыемства, і нарэшце арыштоўваюць яго як польскага шпіёна. А ён пісаў такія пранікнёныя з бальшавіцкім зместам лісты, такія патрыятычныя – "вернемся, прыйдзем, наладзім, справядлівасць", – прыгадвае дзядзьку Язэп Сцепановіч.

Якуб ажаніўся з дзяўчынай з Раслаўля Смаленскай вобласці. І калі схапілі, сказаў жонцы: "Наладжвай ўласнае жыццё і любым чынам захавай дачку". Жонка вярнула дзявочае прозвішча Харошава сабе і дачцэ **Люсі**, але замуж так і не выйшла, шануючы памяць каханага.

Да вайны бацька з братам **Мікандрам** арганізавалі справу. Была ў іх у Лыцавічах кузня, майстэрня, рабілі збрую, куратнікі, брычкі, пасля прадавалі ў краме. А таксама соль, запалкі і іншыя жыццёва неабходныя рэчы і харчы, што закуплялі ў Вільні. Туды ездзілі на сваіх конях. Іх было некалькі: цяглавыя для працы і гасцёвыя, ці парадныя. Як прыйшлі саветы – усё мусілі здаць. Мікандра пайшоў працаваць на спіртзавод у Свіра, а бацька загрымеў у войска і на вайну.

Міхаіл не мог вярнуцца з савецкага войска дадому, і без рукі пайшоў у партызаны ў брыгаду Суслава. Пра партызанаў казаў неадназначна. Што былі і нармальныя, але вайскоўцы здалёк змушалі не шкадаваць мясцовых жыхароў.

Свае ж разумелі, што рана ці позна прыйдзецца вяртацца.

– Таму, атрымаўшы заданне, напрыклад, забіць старасту, ішлі да сяброўкі, салам запасуцца, пагушкаюцца – і назад, кажуць, што не засталі, – перадае расказы бацькі суразмоўца. – Бацька не баяўся ніякіх пасадаў, меркаваў, што не было чаго губляць. Бачыў гэту сістэму ў корані, як яна нараджалася, як вылузвалі з гразі ў князі. Было прэстыжным мець батрацкае паходжанне. А мае бацькі маўчалі, каб не ўсплыло "кулацкае" мінулае ды глыбей, што дзед прыехаў з Вільні і купіў тут зямлю. Бацька скончыў Віленскую польскую гімназію, і свядомасць з-за гэтага ў яго была польская, думаў па-польску. Памёр, калі я быў на першым курсе педінстытута. І маю беларускасць напоўніцу і адраджэнскую дзейнасць не пабачыў. Пры ім толькі пісаў лісты дамоў, свае дзённікі і складаў першыя вершы.

Язэпа назвалі ў гонар дзеда. Маці Алена Мікалаеўна, як прыйшла ў дом бацькі знаёміцца, спужалася свякрухі **Ганны**. Казала, тая сядзела насупіўшы, суровая, цёмная, аж калені задрыжэлі. А зайшоў свёкар – як рукой зняло, такі лагодны. Менавіта ён даў дабро на шлюб.

**Дом, у якім нарадзіўся Язэп, згарэў ад маланкі, як яму годзік быў ці два.**

– А ў Лыцавічах хата на хаце, так эканомілі зямлю, і ў пажар згарэла адразу некалькі дамоў. Тады бацька купіў дом у Шляпах, за 10 кіламетраў.

## Кінуў курыць у чацвертым класе

З бацькам шчыльных кантактаў Язэп не меў, хаця той і ні разу не адлупцаваў. Але ў пакаранях удзельнічаў. Калі хто з чатырох братоў правініцца і не прызнаецца, бацька ўсіх ставіў на калені на шурпатую падлогу, рукі ўгору, а калі яны апускаліся, лупіў дзягай. І так пакуль не прызнаюцца.

Язэп хадзіў у тры школы – Спягельскую пачатковую, пасля Чурлёнскую на радзіме, а выпускаўся з Сырмежскай. У школах таксама каралі. Некалі ўвесь урок стаяў перад класам, падняўшы "Арыфметыку", на якую выпадкова разліў чарніла малодшы брат **Віця**. За правіннасці білі лінейкай па руках ці круцілі за вуха.

– Адзінае, чым добрая гэтая жорсткасць, – што перастаў я курыць, – кажа Сцепановіч. – Калі пачаў, не памятаю, а кінуў у чацвертым класе. 60-я гады, грошай не было. Мы кралі з-пад курэй яйкі і заносілі ў краму. За тры яйкі – пяць пачак цыгарэтаў "Мохорочні", унутры са стрыжнем, і карабок запалак. У зямлі рабілі траншэі, дзе хавалі запасы. А на вялікім перапынку ў драўляным туалеце на вуліцы курылі. Аднойчы дырэктар прыбегла, убачыла, спыніла ўрокі, сабрала экстранную лінейку і мяне: "Стараста класа, твар калектыву..." І ручной машынкай для стрыжкі валасоў школьны заўгас праструг на галовах праказнікаў палоскі, а бацькам перадалі запіску. Я думаў, бацька мяне стрэшчыць. А ён дастаў сваю асьмушку з махоркай – курыце, каб аж млосна стала. Не, тата, мы ж не курым. Як адрэзала з таго часу ад гэтай выключна непатрэбнай і шкоднай забавы.

## Прырода зачаравала

– Я тут з вуліцы ўварваўся ў навуку і акадэмію, – дзеліцца навуковец. – У дзяцінстве захапляўся разнастайнасцю прыроды. Яна мяне чаравала. Рабіў прышчэпкі раслін. Гэта механічнае скрыжоўванне, галінка аднаго дрэва мацуецца да іншага. Спрабаваў прышчапіць рабіну да асіны, не ведаў, што можна працаваць з раслінамі толькі аднаго роду, а лепш – аднаго віду. У нас былі нясмачныя слівы, а ў суседзяў сакавітыя жоўтыя. Прышчапіў – і ўдаліся. Цягнуў рознае з лесу, што пад полагам дрэў расце. Мама вылучыла цэлую ляху ў агародзе. Бацька спачатку быў супраць – займаў каштоўныя і абмежаваныя соткі. А калі пачаліся поспехі, і у вёсцы далі мянушку Аграном, дазволіў працягваць. На прышчэпленай галінцы расце плод такі самы, адкуль бярэцца чаранок, тая ж сліва, толькі крыху адценне смаку мяняецца, усё ж жывіцца іншым сокам.



У старэйшых класах настаўніца біялогіі з'язджала на курсы павышэння кваліфікацыі ў Мінск, і замяняць яе даручыла нікому іншаму – Язэпу як старасту. Паўтара месяца настаўнічаў ён. Спачатку аднакласнікі спрабавалі хуліганіць, а затым нічога. Вярнуўшыся, настаўніца не выправіла ніводнай выстаўленай ім адзнакі.

## "Нікому не кажы, што паступіў"

Паступаў ва ўніверсітэт Язэп таемна. Набраў дакументаў, прыйшоў у педінстытут – і на падрыхтоўчыя курсы. Здаў іспыты лепш за ўсіх на патоку, "4" толькі за сачыненне атрымаў. Старшыня камісіі прафесар **Гурскі** на заключным сумоўі так і сказаў: "Вяртайся дадому і кажы бацькам, што ты – студэнт".

– Калі паведаміў маме, яна адрэагавала так: "Дзіцятка, ты ж не кажы нікому, ну, куды там Міхаськовым дзецям. Скажуць, што кумпякі вазілі ці нейкія родзічы паклапаціліся". Рэпутацыя ў бацькоў была слабенькай – тата пастух і вартаўнік, а ён жа не афішаваў, што да саветаў і краму меў, і быў чалавекам, а цяпер ніхто. Раптам бы хто накапаў іх мінулае, ды яшчэ пра расстралянага брата. Мама працавала з татам на ферме. Мы занятыя гаспадаркай былі, касілі, працавалі ў полі, а так хацелася ў футбол пагуляць.

**Нават прасіў бацькоў, каб аддалі ў інтэрнат – так мне хацелася вучыцца.**

Бацька спакойна ўспрымаў, што мяне настаўнікі ў прыклад ставяць. Мама плакала, як прыходзіла з бацькоўскага сходу – надта хвалілі. А школу закончыў толькі з пахвальнай граматай, паставілі некалькі чацвёрак – я ж не сын старшыні калгаса.

Аднойчы ў школе хлопчыку расказвалі пра апошняга пана з Чурлёнаў, Вайноўскага. Язэп перадаў пачутае тату, што такі пан быў жорсткі, сялян мучыў. Бацька як ухапіўся: "Каб я не чуў гэтага! Настаўніца твая нічога не ведае! Каб вярнуўся той пан, я яму ў мяккае месца пацалаваў бы".

Язэп толькі ў старэйшых класах зразумеў, чаму бацька так злаваў на савецкую ўладу:

– Адно гавораць, другое думаюць, а трэцяе робяць. Здаецца, такія справядлівыя лозунгі савецкія, а што на справе?

Па размеркаванні выпускнікоў інстытута Язэп ішоў сярод першых. Паралельна скончыў факультэт грамадскіх прафесій, атрымаў-

# ...ікам. Язэп Сцепановіч – ...агоню" і бел-чырвона-белы сцяг



**Язэп Міхайлавіч Сцепановіч** – беларускі навуковец у галіне геабатанікі і экалогіі, педагог і грамадскі дзеяч. Доктар біялагічных навук (2001). Дацэнт (2009). Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Лыцавічы Вілейскага раёна. Вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута эксперыментальнай батанікі імя Купрэвіча Нацыянальнай Акадэміі навук. У 1989 годзе ў АН стварыў суполкі Таварыства беларускай мовы і Беларускага народнага фронту. Пасля адной з паслячарнобыльскіх экспедыцый прапанаваў стварыць "Рух за выжыванне", які пасля трансфармаваўся ў "Чарнобыльскі шлях". У 1991 арганізаваў пікет каля Дома ўрада з плакатам: "Вярнуць народу яго спрадвечныя сымбалі: гэрб Пагоня й бел-чырвона-белы сьцяг, – а таксама назоў краіны Літва, сталіцы – Менск!". Пасля другога рэферэндуму і зменаў у Асноўным законе разам з вядомымі беларускімі навукоўцамі-біёлагамі ініцыяваў стварэнне Грамадскага камітэта ў абарону Канстытуцыі. Узначальвае ад 1993 года Тэрміналагічную камісію ТБМ, з дапамогай Міністэрства адукацыі, навукоўцаў і педагогаў арганізаваў і правёў першыя дзве нацыянальныя канферэнцыі "Праблемы беларускай навуковай тэрміналогіі". Узнагароджаны грамадскім медалём Барыса Кіта "За дасягненні ў асветніцтве і навуцы" ў 2005 годзе.

шы спецыяльнасць інструктара турызму і кіраўніка танцавальнага калектыву. Пяць год займаўся ў ансамблі народнага танца "Вяснянка". У Вілейскім РАНА, куды размеркавалі, накіравалі адразу дырэктарам Вілейскага раённага дома піянераў і школьнікаў. Неўзабаве паклікалі аддаць доўг Радзіме. Пасля арміі будаваў кар'еру ў навуцы. Штуршком сталі як захапленне біялогіяй, так і навуковыя поспехі ў студэнцтве – двойчы стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу студэнцкіх навуковых прац, заняў першае і другое месцы.

## Лаціну прыдумаў сам

– Бацька браў на кірмаш у Вільню, там пачуў, як літоўцы гавораць. Гэта мяне так узрушыла – яны ж таксама ў Савецкім Саюзе, чаму размаўляюць па-свойму, а нашы, як ідуць да старшыні, пачынаюць патураць: "Здраствуйця, таварышч прадсядацель...". Можа справа ў тым, што пішуць на лаціне? І ў школьнай сценгазеце напісаў загаловак на лаціне. Раніцай адразу да дырэктара: "Хто падказаў, хто навучыў?". Кажу, сам прыдумаў. Зрабілі мяне ледзь не шпіёнам. А я ж думаў, што калі пісаць на лаціне, беларуская мова адразу стане прывабнай. І тады нават не ведаў, што некалі ў нас была свая лаціна, ні пра сцяг, ні пра герб не ведаў. І бацькі не казалі ні слоўца.

Сцепановіч пайшоў далей. У пачатку 90-х надрукаваў распрацаваны ім сучасны варыянт беларускага лацінаграфічнага пісьма, якое назваў абэцэды. У гэты час пра лаціну ўжо ведаў, але карыстаўся сваёй.

– Я ўніфікаваў яе, выкарыстаў увесь патэнцыял лаціны. Увеў асобныя літары для "дж" і "дз", у якасці "х" прапаную ікс – "х". А ёсць жа Тэхас і Мехіка, хаця пішуцца праз ікс. Чаму б не выкарыстаць гэтую лёгкую літару? Зняў польскае "Ł", прапанаваў мяккасць паказваць знакам націску зверху. На навуковай радзе Інстытута мовазнаўства абмяркоўвалі мой артыкул у акадэмічнай газеце "Навіны Беларускай акадэміі" і прапанову ўспрынялі станоўча, але палічылі, што гэта пакуль заўчасна ўводзіць. Яшчэ тады хацеў, каб на лаціне афармлялі пашпарты – было б так рацыянальна і эканамічна. Пазней прынялі некаторыя прапановы. Цяпер ёсць афіцыйная беларуская лацінская графіка. І ў транспартнай сферы Менска яна практыкуецца, дзе ў прыватнасці, уніфікавана мяккасць зычных, знята крэска з "Ł". А як зручна замежнікам арыентавацца цяпер у метро! Мяркую, яшчэ прыйдзе час майго варыянту цалкам. Цяпер вельмі зручны момант для рэфармавання мовы, калі ёй карыстаецца мінімум грамадзян. Я гутарыў пра гэта з прафесарам Лонданскага ўніверсітэта **Джымам Дэнглі**, які распрацаваў англійска-беларускі слоўнік юрыдычных тэрмінаў. У 1992 годзе ён выступаў у Прэзідыуме акадэміі на канферэнцыі. Выйшаў – і як ён па-беларуску шпарыць! А нашы акадэмікі па-расейску. Усе праглынулі. Пры размове сказаў, што наша мова семантычна дакладная, а фанетыка і марфалогія амаль адпавядаюць. У той час як у тых жа англічан трэба ведаць два варыянты – як пісаць і як чытаць.

Калі выкладаў у педуніверсітэце па-беларуску, калегі казалі: "Что вы козыряете, что вы хотите этим доказать...". А ў студэнтаў праблем не было ніякіх. Толькі пыталіся, на якой мове адказваць ім. Казаў, на якой зручна, абы прадмет ведалі.

## Замахнуўся папраўляць аўтарытэтаў

– У мяне паўсюль парадак, бо люблю сістэму, я і ў навуцы распрацоўваю сістэму раслінных супольніцтваў, або фітацэнозу. Гэта сусветная задача, архіскладаная. Спрабую, разграбаю, ужо "свеціць Нобелеўская" *(жартуе – "РГ")*. Толькі не мне, а паслядоўнікам. Замежныя калегі заўсёды здзіўляюцца, як мы такіх вынікаў дасягаем з нікчэмнай тэхнічнай базай.

Навукоўца ўдакладняе:

– Я знайшоў хібы і паправіў і савецкую дамінантную і замежную эколага-фларыстычную сістэмы класіфікацыіі. Ніхто не адважваўся – як жа аўтарытэтаў папраўляць. Пачаў з кандыдацкай дысертацыі, якая тычылася раслінасці басейна Віліі. Гэта было недазволена – нейкі там аспірант ламае навуку. Казалі, абараніся, пасля ўсё мяняць будзеш. Але я не мог з гэтым пагадзіцца. Першы апанент даў адмоўнае заключэнне, другі наклапаў хібаў на 15 старонак, але нічога істотнага. Хацеў, каб усё было бездакорна. Абараніўся я з помпай.

> **Усе прагаласавалі "за", хаця ішоў 1988 год, а я ўжо быў нефармал і засвяціўся ў БНФ.**

Падчас ландшафтна-экалагічных курсаў у Грайфсвальдскім універсітэце ў Германіі ў 1998 годзе разам з нямецкімі навукоўцамі вывучалі торфаўтваральны патэнцыял балота ў даліне ракі Трэбэль. Торф назапашваецца па міліметры за год з парэшткаў раслін, пераважна сфагнавых імхоў. Сабралі некалькі узораў, распазналі, а з аднаго імха змаглі вызначыць толькі род. Від вырашылі вызначыць у лабараторыі. Аднак і там не атрымалася.

Паехалі назад за 72 кіламетры на роварах шукаць дадатковыя ўзоры, каб вызначыць від. Там навукоўца зразумеў, што такое нямецкая педантычнасць.

– Доктарскую дысертацыю напісаў па-беларуску, як і ўсе свае працы. Казалі, хаця б аўтарэферат напішы па-руску, бо водгукаў не атрымаеш. Я не здаўся. І нават цэлую главу напісаў з выкарыстаннем лаціны. Усе тапонімы былі "Полацак, Слуцак, Менск, Берасце" і гэтак далей. Мы, як і медыкі, карыстаемся лацінскімі найменнямі. Гэта было вельмі арганічна ў кантэксце беларускай лаціны. Вядома, хваляваўся, але разаслаў. Прыслалі 30 водгукаў – больш, чым камусьці ў гісторыі. 16 з іх – замежныя. Навукоўца з Прыбалтыкі дапісала: "Якая зразумелая і, відаць, мілагучная, беларуская мова". Дырэктар Інстытута і старшыня Рады па абароне дысертацый, акадэмік **В. І. Парфёнаў** кажа, трэба спыніць, бо будуць праблемы. Адказваю, што падстаў няма. Урэшце абараніўся... праз 2 гады. І зноў паспяхова. Толькі праз штучныя перашкоды.

## Выратавалі Нарач ад цыркарыёзу

Амаль усе праекты навукоўца маюць практычны выхад. Напрыклад, у Беларусі збіраюцца рабіць струнную дарогу ад Дукоры да Мар'інай Горкі. Эколагі абследавалі пляцоўку на прадмет будаўніцтва і далі заключэнне. Вырашылі, што там удалае месца, будзе нанесены найменшы ўрон мясцовым экасістэмам.

У Нацпарку "Нарачанскі" была праблема цыркарыёзу, ці кароcты. Узбуджальнікі – дробныя арганізмы, што маюць вялікі цыкл развіцця. Спачатку яны ў смажках, пасля ў кішачна-страўнікавым тракце вадаплаўных птушак, якія ядуць смажкоў. Затым з іх фекаліямі лічынкі трапляюць у ваду і сутыкаюцца з іншымі арганізмамі, у тым ліку людзьмі. У чалавеку яны не знаходзяць апрышча, але выклікаюць сверб і пачырваненне.

У гэтым даследаванні ўдзельнічаў Сцепановіч. Калі абследавалі, зразумелі, што цыркарый развіваецца ў цёплай вадзе, на мелкаводдзі. Падчас праведзенай побач меліярацыі зменшыўся ўзровень і возера, і іншых вадаёмаў на 40 сантыметраў. Навукоўцы прапанавалі зменшыць і ачысціць сцёкі. Так і зрабілі, падняўся ўзровень і праблема знікае. А заолагі як варыянт прапаноўвалі завезці амура, драпежную рыбу, якая б з'ела усіх насельнікаў вадаёма, нават вугроў.

## Сын марыць забяспечыць нашчадкаў энергіяй

Навука для нашага госця – гэта другая жонка. Яму пашчасціла, што **Алена** таксама ў гэтай сферы, працавала сакратаром-рэферэнтам у акадэміка, пасля лабарантам, навуковым супрацоўнікам. Бачыла, праз якія нервы давалася навука мужу, дапамагала друкаваць працы на машынцы, пасля на камп'ютары.

– Гэта цяпер у эксэлі можна закладаць гіганцкія масівы звестак, а тады ж усё на міліметроўцы. Я качаў тут гэтыя рулоны, спрабаваў вынікі даследавання ў сістэму ўвесці.

Сын **Аляксандр** скончыў хімфак, заняўся галіной вадароднай энергетыкі. Знайшоў конкурс у дактарнатуру ў ЗША, Швейцарыі, Польшчы і Германіі. І бацькам не прызнаваўся, бо Алена казала дзецям, каб не ішлі па бацькавых слядах – бясконца экспедыцыі і празябанне. Здаў іспыт у Швейцарыі, затым паехаў у Нямеччыну. Прэтэндэнтаў было больш за сто, з іх на аўдыенцыю адабралі дзесяць., а прынялі двух, у тым ліку Алеся. У Рурскім універсітэце Бохума адвучыўся і абараніўся на англійскай мове. Вывучыў польскую і нямецкую.

> **Сын стаў доктарам-інжынерынгам у галіне вадароднай энергетыкі.**

А спачатку меркаваў заняцца рэгенерацыяй тканак, каб можна было абыходзіцца без донарства. Але пасля яго зачапіў энергетычны крызіс. Знайшоў задачу – забяспечыць чалавека энергіяй у будучым з вады. Шляхам фатолізу вылучыць вадарод, узяць яго энергію, пасля акісліць і такім чынам аднавіць ваду. Вось дзе вечная крыніца энергіі. Але пакуль яе перспектыву засланяюць вуглевадароднае і атамнае лобі, мяркуе навуковец.

Аляксандр вярнуўся ў Беларусь. Распрацаваў сайт на 10 моў, у тым ліку беларускай, які дапамагае навукоўцам шукаць інвестараў.

Дачцэ **Лідзіі** нашапталі яшчэ ў ліцэі, што добра разбіраецца ў людзях, пайшла на псіхолага ў БДУ. 16 чалавек на месца было. Скончыла выдатна і магістратуру, працуе ў школе.

## Чаму не адмовіўся ад грамадскай дзейнасці

– Ну, не магу я, ну, што рабіць, калі мне баліць за гэта ўсё, проста смыліць. Толькі абачліва. А рашучыя крокі могуць загубіць усё. Найлепшы спосаб – беларускамоўная адукацыя на ўсіх узроўнях, ад дзіцячага садка да ўніверсітэта. Цяпер галоўнае – захаваць дзяржаўнасць. Атрымаецца адрадзіць беларускую (ліцвінскую!) Беларусь, я ўпэўнены.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Як рабіць дэбют у шахматах

**Дэбют у шахматах – з аднаго боку складаны і шматгранны, з іншага – яго можна крыху спрасціць … і жыць стане лягчэй. Давайце паспрабуем спрасціць.**

Што патрабуецца рабіць шахматысту ў дэбюце – пачатку партыі?

1. Вывесці фігуры з пачатковых пазіцый. На шахматным слэнгу гэта завецца "развіць фігуры". Зноў жа, у пачаткоўца існуе нейкая боязь развіцця. Развіў фігуру – і яе з'елі. Таму пачаткоўцы ідуць па простым шляху – вывудзяць самую моцную, ферзя, і сочаць, каб яго не з'елі. А самі спрабуюць нападаць ферзем і "з'ядаць" чужое.

Такі метад аказваецца паспяховым на самым пачатковым шляху. Яго праходзяць усе.

2. Другая задача – змагацца за цэнтр. Хоць для пачаткоўца гэта не так важна. Галоўнае, каб не паставілі хутка мат і не страціць адразу шмат фігур.

3. І трэцяя задача дэбюту для больш моцных і свядомых – ракіравацца. Гэта значыць, вывесці караля з цэнтра, таму што ў цэнтры каралю не вельмі зручна.

4. Вядома, існуе задача замінаць саперніку. Але на першапачатковым этапе можна паспрабаваць і не перашкаджаць, а вырашаць хаця б першыя тры свае праблемы: развіцца, цэнтр, ракіравацца.

Давайце разгледзім і завучым некалькі моцных пазіцый, да якіх трэба проста прыйсці. Гэта так званыя табіі. Завучваеш табію, робіш свае хады і з вялікай доляй верагоднасці атрымліваеш надзейную моцную пазіцыю. І ужо ў сярэдзіне гульні, мітэльшпілі, спрабуеш перайграць саперніка.

Такім чынам:



Адна з сучасных гросмайстарскіх табій. Белыя фігуры развітыя. Яны не прайгралі цэнтр.

Кароль ракіраваны. На ўсё зроблена дзесяць хадоў. З магчымымі перастаноўкамі і контр-выпадамі чорных, белыя прыйшлі да такой пазіцыі праз хады: 1. С2-с4, 2.е2-е3, 3. Кb1-с3, 4. G2-g3, 5.Сf1-g2, 6.Кg1 -е2, 7.0-0 (ракіроўка), 8.d2-d3, 9. В2-b3 b 10. Сс1-b2 і перад намі наша пазіцыя.

Падабаецца? Карыстайцеся! Дарэчы, у 90% выпадкаў такая ж расстаноўка фігур магчымая і пры гульні чорнымі фігурамі. Паспрабуйце самі знайсці парадак хадоў чорнымі.

Паглядзіце – усе фігуры добра і гарманічна стаяць, змагаюцца за цэнтр і гатовыя да далейшых актыўных дзеянняў. Пры такім раскладзе вы не прайграеце ў дэбюце нават майстру! Адважвайцеся!



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

## Маладзечанскія барцы сталі другімі ў вобласці

МАЛАДЗЕЧНА

**14 лістапада адбылося першынство Мінскай вобласці па грэка-рымскай барацьбе ў Барысаве сярод юнакоў 2001-2002 гадоў нараджэння.**

Пераможцамі сталі **Арцём Гаўроў**, **Глеб Навасёлаў** (трэнер **Яўген Козел**), **Данііл Кайлевіч** (трэнеры **Антон** і **Дзяніс Найлаўцы**).

"Срэбра" атрымалі **Дзмітры Раманенка**, **Павел Гілянчук**, **Міхаіл Хачатураў** (трэнеры **Антон** і **Дзяніс Найлаўцы**).

Трэцяе месца занялі **Даніла Рабчык** (трэнеры **Віктар Вянглоўскі** і **Антон Найлавец**), **Аляксей Францкевіч** (трэнер **Яўген Цярэшка**), **Валянцін Дзяніс**, **Яўген Трывашкевіч** (трэнеры **Антон** і **Дзяніс Найлаўцы**), **Ілья Елісееў** (трэнер **Сяргей Валасковіч**).

Па выніках агульнага заліку каманда заняла другое месца, саступіўшы гаспадарам спаборніцтва.

**Аддзел інфармацыі.**

# "Чысць – спартыўная сталіца Маладзечаншчыны"




ФК "Чысць" у 2018 годзе будзе адстойваць гонар Маладзечаншчыны ў першай лізе.

МАЛАДЗЕЧНА

**Такія словы прагучалі ў Чысцінскім Доме культуры ў суботу, 18 лістапада, калі адбылося ўручэнне сярэбраных медалёў футбольнай камандзе "Чысць" за другое месца ў чэмпіянаце Беларусі ў другой лізе.**

Мясцовы Дом культуры зладзіў для футбалістаў сапраўднае свята з урачыстым узнагароджаннем і святочным канцэртам.

Павіншаваць ФК "Чысць" прыехалі старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец**, намеснік начальніка аддзела ідэалогіі, спорту і турызму **Мікалай Шрымф**, а таксама прадстаўнік АБФФ **Ігар Бялоў**.

Галоўны трэнер каманды **Дзяніс Мятліцкі**, якога першага паклікалі на сцэну, пачаў са слоў удзячнасці сваёй камандзе за падтрымку, за веру ў перамогу. Дзяніс прызнаўся, што напярэдадні сезона задач кіраўніцтва каманды не ставіла ніякіх, але калі футбалісты сваёй гульнёй і імкненнем даказалі, што вартыя гуляць у першай лізе, тады разам прыклаліся ўсе намаганні. І вынік відавочны. А пра планы наконт будучага сезона сказаў:

– Мы пастараемся замацавацца ў першай лізе, а потым замахнуцца і на вышэйшую лігу. Бо мы ўпэўненыя, што раён з такімі футбольнымі традыцыямі павінны мець каманду ў першай лізе, як мінімум.

З такім вынікам каманду і павіншаваў Аляксандр Яхнавец. Ён сказаў:

– Шчыра віншую каманду з такім высокім вынікам. Канешне, былі праблемы, былі цяжкасці, але каманда мабілізавалася. Для футбольнага жыцця раёна – гэта значная падзея. Многа было пытанняў, ці там мы пабудавалі стадыён, але вы сваёй гульнёй даказалі, што месца для будаўніцтва стадыёна мы выбралі правільнае. Праслаўляйце наш раён. Што датычыцца дапамогі, то мы будзем дапамагаць, выдзелім сродкі з мясцовага бюджэту, згодна з указам Прэзідэнта. А вам, у сваю чаргу, хачу пажадаць добрых спонсараў. Разумею, што утрымацца ў першай лізе будзе цяжка, але я вам жадаю толькі руху наперад. Падымайцеся вышэй і вышэй.

Акрамя медалёў камандзе, старшыня Маладзечанскага райвыканкама ўручыў граматы за добрасумленную працу Дзянісу і **Мікалаю Мятліцкім**.

Аляксандр Яхнавец, у сваю чаргу, без падарунка таксама не застаўся. Каманда "Чысць "падарыла яму футбольны мяч з аўтографамі гульцоў.

Пасля гэтага слова ўзяў былы старшыня Чысцінскага сельвыканкама **Анатоль Пяцюшык**. Ён сказаў:

– Нам, чысцінцам, прыемна разумець, што шматгадовая праца нарэшце прынесла доўгачаканы поспех. Чысць будзе прадстаўляць Маладзечаншчыну ў першай лізе. Не раз даводзілася чуць з гэтай сцэны словы з вуснаў **Міхаіла Фінберга**, што Чысць павольна, але ўпэўнена становіцца культурнай сталіцай Маладзечаншчыны. Дык вось я сёння з упэўненасцю гатовы паўтарыць гэтыя словы, што Чысць паступова становіцца спартыўнай сталіцай Маладзечаншчыны. Тут у нас выраслі цэлыя спартыўныя дынастыі **Панцюховых**, Мятліцкіх. Я жадаю камандзе маладосці і настырнасці. Вы зможаце дамагчыся высокіх вынікаў, а мы вам у гэтым дапаможам.



Аляксандр Яхнавец, злева, і Мікалай Шрымф за ўзнагароды падзякавалі і паабяцалі, што іх адпрацуюць.




Галоўны трэнер ФК "Чысць" Дзяніс Мятліцкі.

Лепшы варатарам сезона-2017 быў названы **Андрэй Лабудзеў**, лепшым абаронцам **Яўген Будай**, лепшым паўабаронцам **Мікіта Мятліцкі**, лепшым нападаючым **Аляксей Кашэўскі**.

Мікалай Шрымф дадаў:

– Запомніце, што ваша гісторыя ў 2017 годзе толькі пачынаецца.

І Аляксандр Яхнавец, паказваючы на свой медаль:

– Мая ўзнагарода – гэта, канешне, аванс. Яго трэба адпрацоўваць. Будзем разам дамагацца поспехаў.

Пасля быў і святочны канцэрт, і ўручэнне падарункаў дырэктару Чысцінскай школы. А калі канцэрт завяршыўся, футбалісты сыходзілі са сцэны пад крыкі з залы: "Мы вас любім!"

Паглядзім, ці пачуем гэтыя ж самыя галасы на стадыёне ў 2018 годзе, калі Чысць выйдзе на поле ўжо першай лігі.

**Наталля ТУР.**
**Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Наяўнасць самапавагі, пачуцця ўласнай годнасці.
4. Жыллё для птушак.
7. Наканаванае.
9. Выплюхванне негатыўных эмоцый адзін на аднаго.
10. Буйная этнічная супольнасць сярэднявечча, якая займала тэрыторыі ад верхняга Панямоння, сярэдняга ды верхняга Прыдзвіння, верхняга Падняпроўя ды Паволжа, а таксама басейны рэк Вялікай ды Ловаці.
11. Беларускі Робін Гуд.
13. Агульная назва розных рэдкіх гарачых і халодных страў: з рыбы, мяса, яблыкаў і груш, можа быць з крыві.
16. Фізіялагічнае адчуванне, якое служыць сігналам таго, што арганізм мае патрэбу ў вадзе.
18. Дэкаратыўная канструкцыя для адпачынку. Міхал Клеафас Агінскі загадаў пабудаваць такую ў Залессі ў гонар дачкі.
21. Распараджэнне камандавання.
22. Галоўны чалавек у радзільні.
24. Прыстасаванні і сродкі, прызначаныя для паражэння праціўніка ў барацьбе.
26. У беларускай кухні мясны выраб са сцягна свіной тушы.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Ласкавасць.
2. Беларускі знаходлівы і кемлівы фальклорны герой.
5. Штучны вадаём як спартыўная канструкцыя.
6. Якая валодае звышнатуральнымі сіламі.
8. Які ёсць у рэальнасці.
12. Калі мусіш рабіць.
14. Покрыва.
15. Велічыня, якая ўяўляе сабой даўжыню траекторыі руху цела за дадзены перыяд часу.
16. Утваральнік торфу.
17. Сталіца Танзаніі.
19. Традыцыйная назва моцнага алкагольнага напою лацінскага паходжання. У ВКЛ так называлі настоі зёлак.
20. Штат ЗША, які называюць сярэбраным ці палынным.
23. Тое, што адбылося.
25. Калі ёсць кампанія.

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №46

**Па гарызанталі.** 4. Варвары. 5. Цокаль. 6. Ляда. 7. Збой. 9. Цень. 10. Цела. 12. Імперфект. 15. Пат. 16. Ордэр. 17. Плаўнік. 18. Люкс. 19. Конус. 20. Дыярама.

**Па вертыкалі.** 1. Гюго. 2. Калізей. 3. Заява. 8. Збан. 9. Цвіль. 11. Зачын. 13. Пушэ. 14. Цеста. 15. Плаванне. 18. Лярд. 19. Кіслы.



## ● ГАРАСКОП 24-30 ЛІСТАПАДА



**АВЕН.** Ідзіце наперад і не спыняйцеся. Вас могуць адольваць страхі, можа ўзнікнуць нерашучасць, але памятайце – вочы баяцца, а рукі робяць. Кіруйцеся гэтым прынцыпам. У вас больш чым дастаткова сіл, умення і магчымасцяў, каб пераадолець любыя перашкоды.



**ЦЯЛЕЦ.** Радуйцеся! Вы недарэмна працавалі ўвесь гэты час, цяпер атрымаеце па заслугах. Калі што планавалі сур'ёзнае, то час настаў.



**БЛІЗНЯТЫ.** Зоркі раяць заняцца абуладкаваннем уласнай кватэры ці дома. Рабіце жыллё больш утульным, ствараймце ў ім прыемную атмасферу. А для гэтага можна набыць нейкія прадметы інтэр'ера, новую мэблю ці пераставіць старую, унесці розныя дробныя змяненні. І ваша жыццё зайграе новымі фарбамі.



**РАК.** Упэўнена плануйце любыя нагрузкі, бо патэнцыял вашага здароўя вялікі і невычарпальны. Але нават самыя здаровыя даводзяць сябе да launчператамлення. Таму не грэбуйце сном і прагулкамі на свежым паветры.



**ЛЕЎ.** Перыяд абяцае быць умерана актыўным і дастаткова спакойным. Адзінае, на што вам варта звярнуць асаблівую ўвагу, – гэта на свой настрой. Трэба, каб нічога вас не выбівала з каляіны, не вылівалася ў прыдзіркі і незадавальненні.



**ДЗЕВА.** Ёсць верагоднасць, што вам прыйдзецца абараняць дасягнутыя вышыні. На шчасце, калі ўсе бакі, уцягнутыя ў канфлікт, пацісн уць адзін аднаму рукі, вам не прыйдзецца супрацоўнічаць з тымі, хто не ў стане годна ацаніць ваш патэнцыял.



**ШАЛІ.** Перыяд не з лёгкіх, але цяжкасць яго не ў вялікай колькасці спраў, а ў накапленні стомленасці, якая цягнецца даволі даўно. І ўсё ж вы зможаце вырашыць даўнія спрэчкі, наладзіць адносіны і прыйсці да агульнага меркавання адносна важных пытанняў.



**СКАРПІЁН.** Вас чакаюць актыўныя, якія патрабуюць хуткіх і смелых рашэнняў, сітуацыі ў каханні і грашах. Толькі спешка вам не па душы. Але вы атрымліваеце падтрымку ад планеты Меркурый – планеты логікі, разважлівасці і кемлівасці. Так што паспяхова справіцеся з некамфортнымі сітуацыямі, выкарыстоўваючы гэтыя цудоўныя якасці.



**СТРАЛЕЦ.** Не лунайце ў аблоках. Настройвайцеся пазітыўна. Вы можаце змяніць сітуацыю ў лепшы бок. Самым спрыяльным чынам складуцца розныя паездкі і падарожжы.



**КАЗЯРОГ.** Што раней для вас было недаступным, цяпер зможаце атрымаць з лёгкасцю. Многія праблемы знікнуць, а справы паспяхова вырашацца. Толькі не будзьце такімі прынцыповымі і непахіснымі, не крытыкуйце іншых.



**ВАДАЛЕЙ.** Ужо з панядзелка пачніце рэалізоўваць свае планы, інакш можаце ўпусціць спрыяльны перыяд для іх далейшага развіцця. І ўдзяліце хоць трохі ўвагі свайму дому, там даўно пара навесці парадак.



**РЫБЫ.** Зоркі раяць вам не зацыклівацца на тым, што не даспадобы. Мо, вашы чаканні проста завышаныя. Недарэмна кажуць, што пошукі шчасця – гэта галоўная крыніца няшчасця. Знізіўшы планку сваіх патрабаванняў да жыцця, вы адчуеце сябе нашмат шчаслівейшымі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 8 | 4 | | | | | 6 |
| | 7 | | 6 | 8 | 2 | | | |
| | | | | 5 | 3 | | 2 | |
| | 5 | | | 3 | | | 9 | |
| 8 | | | 5 | 4 | | 1 | | |
| 7 | | 3 | | 1 | | | | |
| | | | | | 1 | 7 | 3 | 4 |
| | | 4 | | 2 | | 6 | | |
| 9 | | | | | | | 1 | 2 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

## Мінскі абласны драматычны тэатр

**РЭПЕРТУАР НА ЛІСТАПАД**

"**Чатыры навелы пра каханне**" 14+, *С.Злотнікаў, Л.Пятрушэўская, А.Слапоўскі, В.Распуцін*

24 лістапада – у 19:00

**Спектакль-бенефіс у гонар вядучага майстра сцэны Барыса Доніна, узнагароджанага медалём Францыска Скарыны**

"**Не такі, як усе**" 14+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*

25 лістапада – у 17:00

ПРЭМ'ЕРА. "**Ну, вы даяце**" 16+ (камедыя па матывах замежнай класікі)

30 лістапада – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў. ***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.*** Кантактныя тэлефоны: 75-29-16 – намеснік дырэктара, 76-17-32 – галоўны адміністратар, 75-24-17 – каса. E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by.

УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**РЭПЕРТУАР НА ЛІСТАПАД**

"**Васіліса Прыгожая**" (чарадзейная казка), *К.Чарняк (рус.)*

26 лістапада – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: ***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***

Тэл. (8-0176) **74-62-19, 50-56-96.**

УНП 600136804

ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by



## НАДВОР'Е

### 25 лістапада, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | -1 / +1 | | +2 / +3 | | +3 / +5 | | +3 / +2 | |
| | 741 | ↑ 5 | 740 | ↑ 5 | 740 | ↗ 2 | 742 | ↓ 3 |
| Вільня | +2 / +4 | | +5 / +5 | | +4 / +6 | | +0 / +3 | |
| | 746 | ↑ 5 | 745 | ↑ 5 | 746 | → 3 | 748 | ↑ 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.01
Захад 16.58
Даўжыня дня 7.57

Усход 13.50
Захад 23.18
Квадра 1




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**ВІЛЕЙКА**

Мінімальная тэмпература -18,1 °C у 1965 годзе
Максімальная тэмпература +9,1 °C у 1969 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 13,2 мм у 1966 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Сталічныя батанікі з Нацыянальнай Акадэміі навук нядаўна прыязджалі ў вёску Ласі, каб пазнаёміцца з досведам маладзечанца, які вырошчвае паўднёвую расліну.









Стафанія, Сцяпан і Інэса Коршукі на ўзнагароджанні ў рэдакцыі "Рэгіянальнай газеты". Фота Наталлі ТУР.

## Каляндар з праўнучкай для прабабулі: "РГ" узнагародзіла пераможцаў акцыі

17 лістапада **Сцяпан Коршук**, які перамог у намінацыях "Выбар рэдакцыі" і "Фота, дзе адлюстраваная тэма "РГ", прыйшоў на ўзнагароджанне са сваёй сям'ёй: жонкай **Інэсай** і дачкой **Стафаніяй** – той самай дзяўчынкай з фотаздымка.

З усіх падарункаў сям'ю найбольш парадавала тое, што фота Стафаніі размесцяць на фірменным календары "Рэгіянальнай газеты".

– Абавязкова адвязём каляндар прабабулі Стафаніі на Навагрудчыну, – падзялілася Інэса.

Пераможца ў чытацкім галасаванні **Арцём Бурачонак** прызнаўся, што за галасаваннем сачыў кожны дзень, падключыў да яго ўсіх сяброў і сяброўак. А фотаздымак параіла даслаць каханая дзяўчына.

**Калектыў "РГ".**



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

## Калі і куды вы апошні раз ездзілі на цягніку?



**Барыс Карпіевіч, пенсіянер:**
– Па рабоце ездзіў у камандзіроўку ў Гомель. Гэта было летась у сакавіку.



**Ганна Падскробкіна, студэнтка:**
– Летам ездзіла да цёткі ў Магілёў. Яна нядаўна пераехала туды. Люблю ездзіць да яе на выхадныя і на канікулы.



**Інгрыда Паўлаўскене, беспрацоўная:**
– А вось якраз цяпер прыехала з Вільні ў Маладзечна, каб палячыць зубы. У Беларусі нашмат танней, чым у нас.



**Уладзіслаў Чабатар, навучэнец:**
– На электрацягніку езджу кожны дзень. Жыву ў Красным, вучуся ў Маладзечне, на электрычцы ці дызелі дабіраюся на вучобу. Пару месяцаў таму ездзіў у Гродна.



**Ніна Статкун, пенсіянерка:**
– Пару год таму ездзіла на цягніку ў Маскву. Там сваякі жывуць, у іх гасціла.



**Крысціна Сергіевіч, навучэнка:**
– На пасажырскім калі і ездзіла, то вельмі даўно. А на электрычцы кожныя выхадныя езджу дамоў у Мінск.

Падрыхтавала **Аксана ЯРАШОНАК.**







Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№47 (1178) 24.11.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1112. Падпісана ў друк у 9.00 23.11.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.